PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

№ 6 (2021) ГОД XL БЕЛАСТОК 5 ЛЮТАГА 1995 г. ЦАНА 50 грошаў (5000 ст. зл.)



*Зіма ў Белавежы.* Фота Артура Дамашэвіча

*Ганна Кандрацюк*

## Без дзяцей бяда, з дзецьмі — удвая

Сям'я Ч. з Трасцянкі налічвае 15 чалавек. У вёсцы нават існуе своеасаблівая легенда, якая тлумачыць гэты парадак рэчаіснасці.

— Бог пакараў іх дзецьмі!.. Бо яны ж, ведайце, не ў сваёй хаце пражываюць. Іхняя далёкая сваячка ў Беласток перасялілася. У Трасцянцы хатку на дачу сабе пакінула. Яны замест пра ўласны дом думаць, засялілі гэты, сваячкі сваёй. Тая, дазнаўшыся, прыпёрла і давай іх праганяць. Калі не было на іх ужо ніякага спосабу, жанчына кінула праклён: „Коб вам у сёй хаті діті нэ помістіліся", — рассакрэціў сутнасць праблемы немалады ўжо жыхар Трасцянкі.

У сям'і Ч. трынаццаць дзяцей.

* * *

Над маленькай, сапхнутай у глыб панадворка хаткай, уецца стужка дыму. На двары моцны мароз. Сцяжынка да хаткі выкаўзаная і стаптаная. У вакне свецяцца цікаўныя вочы. Прывітаў мяне цёплы, кіслы пах памяшкання. Заклапочаны і бяздарны галава сям'і з увагай разбіраў мае словы. Нехта паспеў схавацца на печцы і зараз сачыў за падзеямі. На адным, з двух, ложку хлопчык з кніжкай. Мар'юш вельмі любіць чытаць. „Akademia pana Kleksa" адгарадзіла яго ад рэчаіснасці. Хатнія падзеі яму не цікавыя. Пакрыты вяснушкамі твар здраджвае частыя ўцёкі ў свет мараў. Побач круціцца чатырохгадовая Каська. Яе вялікія, чорныя вочы трывожна сочаць за сітуацыяй. Відаць, чужыя не надта прыхільна запісаліся ў яе памяці. За момант даходзяць яшчэ два юнакі-васьмікласнікі. У абароннай позе становяцца побач бацькі. Яшчэ хлопец. На руках маленькая дзяўчынка. Скацілася на санках з горкі, ўпала і з плачам завітала ў хату. Трымаючы яе, хлопец выцірае слёзкі і суцішае ласкай. Уражвае гэтая блізкасць і цеплыня.

— Так, бачыце, жывем, — паказвае навокал рукой бацька, пяцідзесяцігадовы беспрацоўны.

Маёмасць іхняя настолькі сціплая, што лепш гэты факт прамаўчаць. Пры сталe паржавелая „пралька". Штодзень сціраe яна безліч вопраткі.

* * *

Уладзіслаў Ч. чатырнаццаць гадоў быў рабочым. Працаваў у беластоцкай „Гарадской зелені". Высокае „родзіннэ" не аднаго прыводзіла ў зайздрасць. „На дзецях капітал збіваюць", — каменціравалі ў Трасцянцы кожныя роды. Жылося тады непараўнальна лепш. Яды ўсім хапала. Тэлевізар нават купілі. Быў час, што кватэру ў Беластоку ім прапанавалі.

— Нігдэ нэ пойэдэмо. Што мы там есті будэм, — мела сказаць іхняя маці. Не памаглі гарачыя рэкамендацыі і расказы пра выгадныя і чыстае жыццё ў гарадскім блоку.

Зямлі таксама не мелі.

Зараз сямейны дадатак на дзяцей таксама з'яўляецца асноўнай крыніцай прыходу. Сённяшні „капітал" гэта сто восемдзесят злотых (па-старому: мільён восемсот тысяч). Адзінаццаць дзяцей вучыцца. Двух найстарэйшых хлопцаў здабываюць прафесію.

— Самая вялікая цяжкасць для нас — выкупіць аўтобусныя праязныя білеты. Ледзь выпрасілі „зніжку", а то звыш мільёна каштавалі б. Нагавіц накупляць таксама цяжка. Вядома, дзеці знoшваюць іх так хутка, што не заўважыш нават калі. Не хапае многага, што тут параіш. Добра, што бульба свая, курыцы свае, пятнаццаць іх разам з пеўнікам маем. А так, то „апека" дапамагае. З першага студзеня пятнаццаць буханак хлеба і столькі ж булачак праз дзень нам давозяць.

— Усё памяняецца, калі дзеці на свой уласны хлеб пойдуць. Грышка будзе механікам, Юрка — пераплётчыкам (інтралігатарам), Арэк і Раман у мясную школу збіраюцца. Можа тады палёгку нейкую адчуецца, — разважае бацька сям'і з нейкім аптымізмам у голасе.

* * *

Некаторыя гавораць, што школа ў Трасцянцы існуе дзякуючы сям'і Ч. На сорак пяць дзяцей, дзевяцера з гэтай хаткі. Таленавіты Арак, стройны васьмікласнік, быццам не з гэтае сям'і. Уражлівасць і разумная рашучасць застылі ўжо ў яго жэстах і твары. Хоча працаваць на мясным прадпрыемстве. Двое дзетак паўтараюць клас. Настаўнікі кажуць, што дзеці здольныя, толькі занядбаныя. Сказаць пра іх нічога дрэннага нельга. Па вопратцы нават не пазнаць што яны з беднае сям'і.

Слабая ежа аднак паўплывала на выгляд дзяцей. Валасы і зубы здрадж-

*Працяг на стар. 3*

*Аляксандр Максімюк*

## БАС тонка спявае

21 студзеня гэтага года ў Беластоку прайшоў сёмы з'езд Беларускага аб'яднання студэнтаў (БАС). Кіраўніцтва арганізацыі зачытала справаздачу з дзейнасці Аб'яднання за 1994 год, затым кіраўніцтва гэтае было адклікана, адбылася дыскусія, былі перавыбраны ўлады. Быццам усё нармальна, як і быць павінна.

У справаздачы Юрка Сульжык — старшыня БАС — расказаў пра арганізаваныя Аб'яднаннем мерапрыемствы ў 1994 годзе. Гэта: Фестываль музыкі Маладой Беларусі „Басовішча", вандроўка „Бацькаўшчына", „Купалле", „Атрасіны", гадавіна Акту 25 Сакавіка, Вілея, варшаўская сустрэча з беларускай аўтарскай песняй, а таксама завяршэнне рэдакцыйнай працы над задуманай два гады таму кнігай „Беларускі студэнцкі рух у 1981—1992 гадах". У лік няўдач Ю. Сульжык залічыў спыненне выхаду студэнцкага бюлетэню „Сустрэчы" ды брак рэгістрацыі сяброў БАС — улікавая дакументацыя неаднойчы пастулявалася на з'ездах арганізацыі ў мінулым. Ад сябе ўжо дакіну тут, што спынішся таксама і выхад старонкі „Прысутнасць" у „Ніве", ці не самага саліднага лістка ў гісторыі студэнцкага руху, бясспрэчна дасканалай дакументацыйнай крыніцы пачынаў беларускага студэнцтва ў Польшчы.

Сёмы З'езд БАС быў у вялікай меры мерапрыемствам драматычным. Упершыню, на думку аўтара, ставілася на ім пытанне пра сэнс існавання арганізацыі. Ці мусім мы прытрымлівацца арыенціраў, намечаных пачынальнікамі БАС? — прагучала пытанне. Быў зачытаны параграф са статута БАС — мэты Аб'яднання, а затым яшчэ адзін — сродкі іх здзяйснення. Ніхто не стаў аспрэчваць сэнсоўнасць ні першага, ні другога. Крызіс ідэі ў БАС паказаў свой злавесны воблік.

Чаму ўсё так пайшло, што БАС зачыніўся ў крузе сваіх знаёмых? Чаму да руху не далучыліся новыя людзі? Гэта і быў галоўны матыў дыскусіі сёмага З'езда БАС. Прыводзіліся ў ёй шматлікія аргументы, маўляў, напрацуешся пры арганізацыі той ці іншай студэнцкай імпрэзы і мала таго, што ніхто табе не падзякуе за гэта, але і канкрэтнага эфекту ад імпрэзы не відаць. Эфекту, зразумела, у форме новых членаў арганізацыі ды якасна новай ідэі. Шмат усялякіх горкіх слоў прагучала ў час нарадаў. Не збіраюся ўсяго гэтага тут прыводзіць. Стаўлю сабе задачу прэзентацыі таго, чаго ўсё-такі ў дыскусіі не хапіла. А не хапіла, на маю думку, асэнсавання гэтай новай сітуацыі, у якой апынуўся БАС.

Тое, што БАС сёння сапраўды тоненька спявае — бясспрэчна. Сведчыць пра гэта, хаця б, колькасць удзельнікаў З'езда. Было іх, калі ўлічыць жур-

*Працяг на стар. 4*

# МЫ ПРАЧЫТАЛІ

*Polska jest państwem, w którym zaczął się proces odgórnej anarchizacji i którego najwyżsi przedstawiciele, dzielący się — wedle ich własnych słów — na „oszustów" i „głupców", walczą o władzę, coraz mniej oglądając się na obowiązujące prawo. Polska jest państwem prawników — mówił prezydent. Ale w państwie prawników ostatecznej interpretacji przepisów może dokonać ulica.*

*(Wprost, nr 3)*

* * *

*Jakkolwiek pod względem usposobienia Pawlak bardzo różni się od Wałęsy, to jeśli chodzi o styl uprawiania polityki są trochę do siebie podobni. Od pierwszych chwil przypadli sobie do gustu. Dyskretnie współdziałając, ogrywali koalicyjnego partnera z SLD. Po roku zgodnego zwalczania szefa SLD premier uwierzył w trwałość sympatii prezydenta do swojej osoby. Ni z tego ni z owego zdymisjonował ministra obrony Piotra Kołodziejczyka, który dla Wałęsy stanowił główną przeszkodę w objęciu kontroli nad wojskiem. Dokładnie w tym momencie skończyła się łaska pana prezydenta. Pawlak przestał być potrzebny. Stał się ewentualnym rywalem w walce o prezydenturę. A z rywalami Lech Wałęsa rozprawia się bez pardonu.*

*(Kurier Poranny, nr 10)*

На Алімпе, як бачым, вядуцца нармальныя гульні.

* * *

*Żołnierze wykonali egzekucję na wrogu państwa zgodnie z rozkazem i regulaminem po nienagannym proceduralnie procesie sądowym. Na dowód humanitaryzmu pozwolili mu nawet do ostatnich chwil na kontakt z najbliższymi, w tym z matką. W myśl zasad „Modlitewnika żołnierskiego", w który polską armię wyposażył Ordynariat Polowy WP, postąpili prawdziwie po chrześcijańsku. Skazaniec nazywał się Jezus z Nazaretu, Jego matką była Maryja, a egzekucja została opisana w „Modlitewniku" pod nagłówkiem „Droga krzyżowa". Po tym jak papież w swej książce „Przekroczyć próg nadziei" zdecydowanie przeciwstawił się próbom traktowania chrześcijaństwa w sposób branżowy, czyli narodowy, w polskim Kościele apel ten pozostał „głosem wołającego na puszczy". Obawy te potwierdził wydany ostatnio przez Ordynariat Polowy WP „Modlitewnik" i „Religijny kalendarz żołnierza polskiego". Obie publikacje zastępują, na użytek słabo wykształconych rekrutów, Jezusa-Boga każdego człowieka — narodowym bożkiem broniącym polskich interesów.*

*Wojskowa katecheza nie zajmuje się chrześcijaninem, który musi pogodzić przykazanie miłości bliźniego z koniecznością obrony ojczyzny, dostarcza natomiast „mięsu armatniemu" topornej ideologii religijnej, aby złagodzić wewnętrzne opory, kiedy trzeba będzie zabijać. Rachunek sumienia rozlicza z lojalności wobec przełożonych świeckich i duchownych.*

*(Wprost, nr 3)*

* * *

*Polską wieś dręczy starokawalerstwo, problem niepełnej rodziny. W niektórych gminach Białostocczyzny notuje się wskaźnik 42 kobiet na 100 mężczyzn. To wytwarza na tych terenach kulturę męską, kulturę pijaństwa, kulturę brutalną. Białystok jest najbardziej zruralizowanym czy jak inni wolą „zewsionym" miastem w Polsce. To największa europejska wieś.*

*(Kurier Poranny, nr 10)*

* * *

*Zawsze dziwiła mnie w Polsce ogromna dysproporcja w eksponowaniu nieprzyjaznych uczuć wobec Rosjan i Niemców. Zupełnie tak, jakby Rosjanie zbudowali Oświęcim, Majdanek, Treblinkę i tam mordowali, a Niemcy byli postaciami z odległej baśni. To chyba przejaw polskiej tęsknoty do Europy,* — сказаў амерыканскі журналіст Майкл Каўфман.

*(Wprost, nr 2)*

* * *

*Młodzież Wszechpolska jest największym stowarzyszeniem młodzieży prawicowej w Białymstoku. Według młodzieży z MW nie powinno być preferencji dla mniejszości narodowych. W pewnych mniejszościach, jak twierdzą, są środowiska, które żądają za wiele. „Jeżeli chcą prowadzić działalność polityczną — proszę bardzo. Mogą tworzyć swoje partie, ale bez preferencji w programach wyborczych. Mogą zakładać pisma, ale nie zgadzam się, aby państwo polskie finansowało często antypolskie gazety jak na przykład „Niwa" — mówi Maciek Olesiński, student prawa FUW, który jest szefem białostockiej MW. „Dowiadujemy się, że MW chce puścić z gazem wszystkich Żydów. Absurd. Nie wszystkich — śmieje się Maciek. Młodzież Wszechpolska uczestniczy w pracach koalicji „Jedność".*

*(Gazeta w Białymstoku, nr 11)*

Мацек лічыць сябе патрыётам, добрым каталікам і талерантным чалавекам.

* * *

*Obowiązkiem każdego rządu jest stworzenie takich warunków dla swojej mniejszości, które by w niczym nie różniły się od warunków obywateli danego kraju,* — сказаў Тадэуш Гавін, старшыня Саюза палякаў у Беларусі.

*(Głos znad Niemna, nr 51-52 — 1994 r.)*

Мы поўнасцю падтрымоўваем думку спадара Гавіна. Асабліва падабаецца нам, што паводле старшыні СПБ, такі абавязак мае „każdy rząd".

* * *

*Wyrazem pretensji Białorusinów jest powstanie nowej partii — Partii Głupców. Jej lider zupełnie poważnie mówi, że reprezentuje większość białoruskiego społeczeństwa, więc z wejściem do nowego parlamentu nie będzie miał problemów. Większość Białorusinów stanowią bowiem ludzie mimo wszystko uczciwi, a więc w obecnych warunkach głupcy — mówi. Pozostali to ludzie mądrzy, a więc nieuczciwi, aferzyści.*

*(Polityka, nr 2)*

Цікава гучала б інфармацыя: у Беларусі выбары выйграла Партыя дурняў.

* * *

*Katoliczka, lat 28: Kładę na jednej szali pragnienie i potrzebę podzielenia się z tobą wszystkim. A ty na drugiej szali połóż ryzyko odsłonięcia siebie w takiej części, w której możesz się odsłonić. Kiedy szale zrównoważą się, razem dojdziemy do wzajemnej relacji.*

Z rubryki „We dwoje"
*(Kurier Poranny, nr 10)*

Ніводнага брыдкага слова, а ўсё ясна. Новыя часы і новая мова.

# З мінулага тыдня

**Прэм'ер-міністры Польшчы і Беларусі — Вальдэмар Паўляк і Міхаіл Чыгір** — прынялі ўдзел у адкрыцці гранічнага перахода Славатычы — Дамачова. У ходзе спаткання кіраўнікі ўрадаў падпісалі чатыры дагаворы: аб развіцці гаспадарчага супрацоўніцтва, аб гранічных адпраўках, аб навукова-тэхнічным супрацоўніцтве і аб ахове магіл і месц памяці.

**Прэм'ер-міністр Вальдэмар Паўляк** намерваецца адмяніць рашэнне папярэдняга ўрада аб перадачы Праваслаўнай царкве будынкаў Супрасльскага манастыра. У выказванні для Беластоцкага радыё прэм'ер сказаў, што ён схіляецца да канцэпцыі прызначэння манастырскіх збудаванняў на агульныя мэты, каб задаволіць патрабаванні ўсіх зацікаўленых справай асяроддзяў. Супраць вяртання Супрасльскага манастыра Праваслаўнай царкве рэзка пратэстуе Каталіцкі касцёл.

На пасяджэнні **Гарадской рады ў Беластоку** радны **Антон Міранович** накіраваў Ваяводскаму каменданту паліцыі дэпутацкі запыт: што падлеглыя яму службы намерваюцца зрабіць дзеля аховы будынка консульства Рэспублікі Беларусь на вуліцы Варынскага? Прычынай запыту паслужылі хуліганскія вылазкі, у выніку якіх выбіваюцца шыбы і прафануецца беларускі дзяржаўны герб. Дасюль паліцыі не ўдалося злавіць віноўнікаў гэтых эксцэсаў.

**Беларусь, Сербія і Боснія** — гэта краіны, у якіх найгорш у Еўропе трактуюцца сродкі масавай інфармацыі, сцвярджае міжнародная арганізацыя Freedom House. Падрыхтавала яна карту свабоды друку ў Еўропе, на якой гэтыя тры дзяржавы пазначаны чорным колерам.

**У Беластоку** адбылося пасяджэнне Управы **Фонду польска-нямецкага супрацоўніцтва**, на якім разглядаліся просьбы ўстаноў і арганізацый аб датацыі. Сярод тых, што стараюцца атрымаць датацыю ёсць і аргкамітэт **Міжнароднага фестывалю царкоўнай музыкі ў Гайнаўцы**. З нагоды пабыўкі ў Беластоку члены Фонду наведалі Свята-Духаўскую царкву і сустрэліся з архіепіскапам Беластоцкім і Гданьскім **Савам**.

**XXI Геаграфічная алімпіяда** набліжаецца да фіналу. На акруговых спаборніцтвах у Беластоку (у якіх прымалі ўдзел вучні з Беластоцкага, Сувальскага, Ломжынскага і Астралэнцкага ваяводстваў) змагалася 56 удзельнікаў, з ліку якіх 20 вучняў перайшлі да пісьмовага этапа. У шчаслівай дваццатцы апынуліся **Андрэй Брэнька, Кацярына Аўсяйчук і Раман Карчэўскі** з Агульнаадукацыйнага ліцэя імя Браніслава Тарашкевіча ў Бельску-Падляшскім.

**Беларускі дэкламатарскі конкурс „Роднае слова"** адбыўся ў Бельску-Падляшскім. У фінале прыняло ўдзел 44 вучняў з дваццаці школ. Пераможцамі аказаліся: **Рыгор Маркевіч і Пётр Лук'янюк** з Пачатковай школы н-р 3 у Бельску (малодшыя класы) і **Эва Аксянцюк і Анна Сурэль** са Старога Корніна ды **Анна Хадакоўская** з Аўгустова (старэйшыя класы).

**XV Ваяводскія сустрэчы калядных калектываў** адбыліся ў Драгічыне. З ліку 400 выканаўцаў, якія паказалі 30 пастановак, журы вылучыла чатыры калектывы на Міжваяводскую сустрэчу калядоўшчыкаў у Сувалках. Сярод прадстаўнікоў Беласточчыны будуць **„Згодныя макі"** з Райска і **„Арэшкі"** з Арэшкава.

**II Кірмаш харчовых прадуктаў** і здаровай ежы адбыўся ў Беластоку. Удзельнічала ў ім звыш трыццаці фірмаў і гандлёвыя місіі з Клайпеды, Коўна, Марыямпаля і Менска.

**У Беластоку** на ультракароткіх хвалях можна слухаць аж сем радыёстанцый. А вось яны: Радыё Беласток, Акадэра, Радыё Зэт, Радыё Марыя, Радыё Біт ды II і III агульнапольскія праграмы. Неўзабаве пачне трансляцыю кракаўская радыёстанцыя РМФ.

**Белавежа інакш** — так называецца выстава ў кафэ „Маршанд" у Беластоку, на якой прэзентуюцца карціны, намаляваныя пад уздзеяннем прыгажосці нетраў Белавежскай пушчы.

**Тамара Тарасевіч** — мастачка з Белавежы — прэзентавала свае карціны на выставе ў Доме расейскай культуры ў Варшаве.

## ПРАЗ ТЫДЗЕНЬ У „НІВЕ"

> Чаму ў Беластоку няма беларускага тэлебачання? — справу паясняе А. Максімюк.

> Мікола Бушко пра праблемы Фестывалю царкоўнай музыкі.

> Беларусь 1995 — рэпартаж з Менска.

# ВЕСТКІ З БЕЛАРУСІ

### Задоўжанасць краіны

Знешнедзяржаўны доўг Беларусі ў 1995 годзе не перавысіць 2 млрд. долараў. Па даных Міністэрства фінансаў на сённяшні дзень гэты доўг складае 1,3 млрд. дол. Такім чынам рэспубліка можа пазычыць сёлета не больш, як 700 млн. долараў.

### Чарговы блок

Аб стварэнні дэмакратычнага выбарчага блока „Грамадзянская згода" заявілі Партыя народнай згоды на чале з Генадзем Карпенкам, Аб'ядналая дэмакратычная партыя Аляксандра Дабравольскага і Грамадзянская партыя. Дэвіз блока: „Праз згоду, разумную палітыку і напружаную працу да квітнеючай Беларусі".

### Мінімальная зарплата

Вярхоўны Савет прыняў да ведама выступленне міністра працы Аляксандра Саснова аб мінімальнай заработнай плаце. З 1 студзеня 1995 г. Кабінет Міністраў павысіў мінімальную зарплату да 30 тысяч рублёў. Зняты таксама ўсе абмежаванні, якія датычаць верхняй мяжы заработнай платы і прадпрыемствы могуць устанаўліваць яе зараз у адпаведнасці са сваімі даходамі. Але сітуацыя застаецца складанай. Напрыклад, узровень мінімальнага спажывецкага бюджэту набліжаецца цяпер да 400 тысяч рублёў. Нягледзячы на розныя даплаты, выплаты і дапамогі, за межай беднасці апынулася больш за 60% жыхароў рэспублікі.

### Палякі гуртуюцца

Палякі, якія жывуць у Віцебскай вобласці, могуць разлічваць на больш надзейную падтрымку сваіх супляменнікаў. Адбылася ўстаноўчая канферэнцыя Віцебскага абласнога аддзялення Саюза палякаў Беларусі. На ўрачыстасці з гэтай нагоды прыязджала надзвычайны і паўнамоцны пасол Рэспублікі Польшча пані Альжбета Смулэк. Яна была прынята старшынёю Віцебскага аблвыканкама Уладзімірам Андрэйчанкам, які абяцаў сваё садзейнічанне новай грамадскай арганізацыі. Аддзяленні Саюза палякаў заявілі аб сабе канкрэтнымі справамі ў Браславе, Міёрах, Оршы, Лепелі і Полацку.

### Польскі пікет

Ля будынка Абласнога савета ў Гродне ўжо другі раз з'явілася група пікетчыкаў. Падставай для акцыі паслужыў адказ з абласных улад аб немагчымасці будаўніцтва ў горадзе ў бліжэйшы час школы з польскай мовай навучання. Не пагадзіўшыся з гэтым, удзельнікі акцыі патрабуюць пачаць будаўніцтва школы. Пры гэтым яны спасылаюцца на тлумачэнне кіраўніка былога ўрада Вячаслава Кебіча, які пры наведванні ў мінулым годзе рэзідэнцыі Саюза палякаў Беларусі запэўніў, што такая школа будзе пабудавана. Пікетчыкі маюць намер працягваць акцыю.

### Хваляванні ў „Хвалі"

На Гродзенскім вытворчым аб'яднанні „Волна" адбылася стыхійная забастоўка. Працоўных, у прыватнасці, не задавальняе нізкі заробак (20—30 тысяч рублёў), практыка разлікаў за выкананую працу (ім часта замест грошай прапаноўваюць аўтамагнітолы), умовы працы. Аднак кіраўніцтва аб'яднання адмовілася выконваць патрабаванні рабочых, спасылаючыся на недахоп сродкаў. Дарэчы, доўг прадпрыемства толькі за энергарэсурсы складае ўжо каля 700 млн. руб.

### Лепшыя песні

Выпуску першай у Беларусі аўдыёкасеты з лепшымі песнямі 1994 года ў выкананні зорак беларускай эстрады была прысвечана сустрэча паэтаў, кампазітараў, артыстаў. Ініцыятарам выпуску касеты стала сумеснае беларуска-польскае прадпрыемства „Вігма". У госці да аўтараў і выканаўцаў прыйшлі супрацоўнікі Міністэрства культуры рэспублікі, дыпламаты Польшчы і Італіі, прадстаўнікі дзелавых колаў, якія выступаюць фундатарамі пачынанняў беларускай эстрады.

### Наёмнікі з-над Свіслачы

У Чачні на баку Дудаева ваююць наёмнікі, у тым ліку і з краін блізкага замежжа. У цэнтры Грознага матастралкі знішчылі агнявы пункт жанчыны-снайпера, пры якой былі дакументы грамадзянкі РБ. На думку прэс-сакратара беларускага пасольства ў Маскве Анатоля Гарагляда, жанчына хутчэй за ўсё была завербавана чачэнскім бокам і праходзіла падрыхтоўку на будучага снайпера ў Прыбалтыцы. Менавіта адтуль жаночы атрад трапіў у Чачню, папоўніўшы войскі змагароў Джахара Дудаева.

Воінскімі здольнасцямі беларусаў цікавіцца не толькі чачэнскі бок. Расейская Федэрацыйная служба контрразведкі (ФСК) рабіла неаднаразовыя спробы вярбоўкі грамадзян Беларусі для папаўнення расейскага войска. Варыянт, што сёння ў Чачні беларусы страляюць у беларусаў, не выключаны.

# БОЛЬШ ІНІЦЫЯТЫВЫ

Размова з бурмістрам Гайнаўкі
**ЯДВІГАЙ РУДЗІНСКАЙ-ПАТЭЮК**

*— Пані бурмістр, што будзе з Гайнаўкай — якая вырасла на пушчы і з яе жыла — калі ўвядуць строгія нормы аховы Белавежскай пушчы?*

— З самым горадам то можа нічога страшнага не будзе. Гайнаўская індустрыя з Белавежскай пушчы бярэ ўсяго 8 да 10% драўніны ў адносінах да сваіх патрэб. Сыравіну прывозіць з цэлай Польшчы, з Бяшчадаў, дзесьці са Шлёнска. Іначай справа прадстаўляецца з малымі навакольнымі прадпрыемствамі. Іх закрыццё пабольшыць беспрацоўе і тым самым давядзе да збяднення тутэйшага грамадства. Вось у такі спосаб адчуе гэта Гайнаўка. Я пераканана, што незалежна ад высакародных ідэй аховы Пушчы і станоўчых вынікаў у далейшай перспектыве, цяпер нас чакае цяжкі час.

*— Ці ў сувязі з гэтым не прадбачваецца дапамогі з Цэнтра для горада? А можа для ўсіх пушчанскіх гмін?*

— Я нідзе пра магчымыя датацыі не чула. Наколькі ведаю жыццё, то можа дзесьці ўдасца вырваць пэўную суму на якуюсьці праграму развіцця горада, але напэўна гэтыя грошы не трапяць непасрэдна ў бюджэт. Мы цяпер, бачачы патрэбу ахоўваць Пушчу, мусім перабудаваць камунальную інфраструктуру, бо яна ў роўнай меры пагражае лесу, як і здароўю людзей. Абавязкова трэба пабудаваць ачышчальню сцёкаў і мы ўжо гэта пачалі рабіць. Па-другое, трэба ўпарадкаваць справы ацяплення горада. У Гайнаўцы 146 кацельняў — тэхнічна вельмі слабых, якія моцна атручваюць асяроддзе.

Толькі, што кожную такую ініцыятыву трэба выходжваць, змагацца за кожную залатоўку ў розных установах, фондах. Так, я даслоўна змагаюся і нідзе ніякай падтрымкі. Ніякі міністр ці іншы важны чыноўнік не сказаў мне: пані з Гайнаўкі, то пані трэба дапамагчы. Нідзе не відаць згоднага фронту ў справе аховы Белавежскай пушчы. Гэта пакуль што ідэя, лозунг, але практычных крокаў пры яе ажыццяўленні мы не бачым. Я думаю, што войты суседніх гмін маюць такую самую дасведчанасць.

*— Якісьці час таму назад быў створаны Саюз пушчанскіх гмінаў...*

— Праўдападобна быў такі саюз, але я працую ад ліпеня мінулага года і пра яго дзейнасць не магу нічога сказаць. Калі ён існуе, дык пэўна толькі на паперы, бо нідзе не відно ніякіх сустрэч, супольных акцый. Але я думаю, што сама ідэя слушная, трэба будзе нам у нейкай такой форме сарганізавацца, каб стварыць такое пушчанскае лобі. Зразумела, не супраць ідэі аховы Пушчы, але дзеля таго, каб нашу Пушчу бараніць.

*— Як выглядае становішча паасобных заводаў у горадзе. Ці яшчэ „Хімічная" працуе?*

— Ужо амаль не. Furnel, які працуе на базе Гайнаўскага прадпрыемства перапрацоўкі драўніны, або, як у нас гаварылі, тартака, прывозіць сабе матэрыял — я ўжо пра гэта казала — з усяе Польшчы. Вось так сабе дае рады.

*—Беспрацоўе ў вас вялікае?*

— Больш-менш такое як і ўсюды, калі карыстацца статыстыкай. Цяпер, напрыклад, крыху меншае, чымсьці ў Бельску. Хаця, безумоўна, такую з'яву як беспрацоўе трэба назіраць на працягу даўжэйшага перыяду.

*— У размовах з жыхарамі Гайнаўкі я адчуў, што тут як быццам больш страх перад беспрацоўем, чымсьці ў згаданым Вамі Бельску. Людзі баяцца закрыцця вялікіх заводаў. У Бельску іх ніколі столькі не было.*

— Так, гэта зусім розныя гарады, інакш сарганізаваны. Бельск больш, калі так можна сказаць, гарадскі. Заўсёды было там больш гарадскіх устаноў, і гандаль, і паслугі. А Гайнаўка была рабочым пасёлкам і гэтыя сляды відаць па сёння. 1200 асоб у Furnelu, і нягледзячы на ўсё, 800 на „Хімічнай", гэта не жарты. Закрыццё гэтых прадпрыемстваў, хаця б толькі ў частцы, абазначае сотні беспрацоўных. Таму такі страх зусім апраўданы.

*— Вы раней былі начальнікам горада. Пасля чатырохгадовага перапынку вярнуліся практычна на тую самую пасаду. Змянілася практычна толькі назва. Як Вы ацанілі б мінулыя чатыры гады?*

— Цяжка праводзіць такую ацэнку, бо то так ніколі невядома, што можна зрабіць і калі канчаюцца магчымасці. Мне здаецца, што папярэдняя ўлада, маючы такую падтрымку і ў ваяводстве, і на цэнтральным узроўні — чаго зрэшты самі не хавалі — магла зрабіць больш. Такое відавочнае занядбанне — гэта недаконччаны шпіталь. Скандал, каб у 90% пабудаваны аб'ект не канчаць на працягу колькіх гадоў. Трэба было раней пачаць будаваць ачышчальню сцёкаў, а пачалі рабіць толькі мы, у 1994 годзе. Хаця, як я ўжо казала, цяжка ацэньваць ці тэмпы маглі быць хутчэйшымі. Напэўна не былі змарнаваны грошы. Былі карысныя інвестыцыі, як хаця б пачатак пабудовы Пачатковай школы н-р 6 на Мазурах.

*— Але ж, пані бурмістр, змяніліся не толькі самаўрадавыя ўлады, але і ўрад. Сёння кіруе краінай той самы палітычны лагер, з якога і Вы. Ці трэба разумець, што Вы скардзіцеся на кантакты з цяперашнімі ўрадавымі ўладамі?*

— Не, я абсалютна не скарджуся. Хачу падкрэсліць адкрытасць людзей на высокіх пасадах, незалежна ад іхнага палітычнага радаводу. Прывяду такі прыклад. Нядаўна прыняў мяне маршалак Сената Адам Струзік з ПСЛ — а я ж не з ПСЛ — уважліва мяне выслухаў і нават абяцаў прыехаць у Гайнаўку, каб прыглядзецца пэўным справам, і магчыма, дапамагчы. Таксама беластоцкія пасольскія клубы, не толькі СЛД, але і Уніі працы, заўсёды ахвотна размаўляюць аб праблемах.

*— Ці з гэтых размоў ёсць канкрэтныя рэзультаты?*

— Пасля паўгода цяжка ацаніць. Я звяртаюся толькі з выключна важнымі справамі, якія вырашаюцца часта значна даўжэй. Напрыклад, міністр фінансаў адмовіў у адкрыцці ў Гайнаўцы казначэйскай палаты, дык нашы пасольскія абяцалі інтэрвенцыю. На адказ у гэтай справе трэба чакаць месяцамі. Калі я дачулася, што паводле планаў, будаваны газапровад канчаецца ў Бельску, дык праз былога віцэваяводу Аляксандра Чужа і паслоў рабіла намаганні, каб прадоўжыць яго да Гайнаўкі. І ўжо маю рашэнне Мазавецкага акруговага газавага прадпрыемства што газапровад кончыцца ў Гайнаўцы.

*— Калі ў Гайнаўцы будзе газ з трубаў?*

— На зломе 1996 года. Мы да тае пары павінны падрыхтавацца да яго развядзення.

*— Якія яшчэ мэты ставіце сабе падчас кадэнцыі?*

— Школу на Мазурах трэба закончыць, са спартыўнымі аб'ектамі вакол яе. Шпіталь трэба адчыніць не калісь там, а ў гэтым годзе. Да канца 1996 года трэба пабудаваць ачышчальню сцёкаў. Усе спазненні страшэнна павышаюць кошты. Ну і парадкаваць горад — водаправоды, вуліцы. У нас такая праблема, што горад нізка распалажаны, „падтоплены". Трэба рамантаваць паднішчаныя будынкі.

*— Скажыце яшчэ, што Вы думаеце пра рыхтаваную адміністрацыйную рэформу?*

— Я, як грамадзянін, супраць паветаў. Гміна настолькі павінна быць кампетэнтная, каб магла я там аформіць усе свае справы, а не каб адсылалі мяне ў раён ці павет. Але, з другога боку, як жыхар Гайнаўкі, пасля таго часу, калі наш горад быў павятовым цэнтрам, засталіся ў мяне добрыя ўспаміны. Можа і цяпер з'віліся б новыя ўстановы, напрыклад суд. Можа знайшліся б новыя месцы працы.

*— Ці гэта, аднак, не туга па ПНР. Не вернуцца ж 70-ыя гады і вялікія інвестыцыі.*

— Магчыма. Я не адкідваю гэтага, што мары на будучыню бяруцца з пэўных дасведчанняў.

*— Пані бурмістр, дзякую за размову. Скажыце яшчэ толькі, чаго жадаеце сабе ў Новым годзе?*

— Ініцыятывы. Каб мець больш ідэй на будучыню і вытрымкі ў іх ажыццяўленні. Жадала б гэтага не толькі сабе, але і радным, і ўсім жыхарам Гайнаўкі. Думаю, што досыць наракання. Тое, што дрэннае і так усе бачым, трэба шукаць добрага!

Гутарыў
**Мікола Ваўранюк**

P.S. Прыемна мне паведаміць, што пані Ядвіга Рудзінска-Патэюк чытае „Ніву".

# Суд Балаховіча

Пра генерала Станіслава Булак-Балаховіча і жменьку яго жаўнераў, што ў міжваенны перыяд пасяліліся і працавалі ў Белавежы, яшчэ і сёння можна пачуць ад старэйшых людзей розныя расказы, а пераважна анекдоты. Вось, адзін з іх.

Аднойчы сабралася некалькі „балахоўцаў" і пачалі гуляць у карты. Адзін небарака прайграў усе грошы і на карту паставіў сваю вопратку ды боты. На жаль, хутка і тыя прайграў. Распранулі тады карцёжнікі свайго сябру і выпусцілі голага на вуліцу. Якраз надарыўся і паліцыянт! Не зважаючы на тлумачэнні, запёр галыша ў арышт.

Вестка пра гэтае здарэнне хутка дайшла да генерала Балаховіча — „Бацькі", як яго паўсюдна называлі. Пайшоў тады генерал вызваляць свайго падуладнага. Арыштанта аддалі без перашкод.

Склікаў тады генерал усіх карцёжнікаў і зрабіў „суд". Усім тым, хто неміласэрна абышоўся са сваім сябрам, загадаў даць 25 нагаек. Палажыліся віноўнікі паслухмяна на падлогу і неўзабаве атрымалі па задніцах належныя бізуны. Прысуд быў выкананы нядаўнім галышом. Але і яму неўзабаве прыйшлося свае атрымаць. За праяўленую дурнату і няўмелую ігру генерал прысудзіў 50 нагаек, якія сам урэзаў „падсуднаму".

На пытанне, ці ўсе задаволены такім вырашэннем, былыя жаўнеры згодна выгукнулі „Бацьку": „Так!" Хвалячы справядлівасць свайго камандзіра, разышліся па дамах.

Гэтую гісторыю ўвекавечыў Стэфан Кшывашэўскі ў сваіх паляўнічых расказах.

**Пётр Байко**

# „Форды" ў гміне

У мінулым годзе жыхары Нараўчанскай гміны карысталіся 570 уласнымі легкавымі машынамі, 12 грузавікамі і 357 трактарамі. Маюць яны нават іншамаркі „Форд", „Мерседэс", „Лада" і „Таўрыя". Ездзяць таксама на матацыклах і матавеласіпедах (іх 362).

Сярод прыватных аўтамашын пераважаюць „Фіаты — перш-наперш „малюхі" (іх 248), ФСО—1500 ды „Чынквечэнта".

**(яц)**



# Без дзяцей бяда...

*Працяг са стар. 1*

ваюць цяжкае жыццё. Таксама мова. Многія гавораць не надта выразна, нервова і хутка.

— Калі ў школе трэба нешта арганізаваць, упрыгожыць, яны першыя горнуцца. У мінулым годзе грыбы збіралі і кветкі ў залу куплялі, — пахваліла іх настаўніца беларускай мовы Анна Мінько.

Усе з гэтае сям'і ходзяць на беларускую мову.

* * *

— Хаця ім грошай не давайце, бо прап'юць усё, — клапаціліся жыхары Трасцянкі. Прычыну беднасці ўсе бачаць у паводзінах бацькоў. Быццам ніякага дачынення не мае тут нават легенда аб „праклёне".

— Владэк, вазьмі зямлі, вунь навокал аблагі ляжаць. У вёсцы амаль усе пенсіянеры. Зямлю за дарма табе назначаць. Свая зямля то і жыць можна. Жывіну нейкую пастарайся, дзеткам малако будзе, — намаўлялі яго людзі з вёскі.

— А, думаеце, схацеў. Кажа: „Ну што вы, не аплаціцца сёння", то я аж пасінеў тады ад злосці. Усе мы гаруем на тыя „эмэрытальныя" складчыны, здароўе трацім, а ён рук пабрудзіць баіцца. Такі чалавек. Толькі чакаюць аж „паньства" пракорміць, — усхваляваўся мой інфарматар.

— А я б памог ім, — перамогшы непрыхільныя адносіны, сказаў іншы дзядзька. — Бо бачыце, у Валэнсы восем дзяцей і яго прэзідэнтам абралі, а наш Валодзя на 5 дзяцей за Валэнсу спраўнейшы. То што, не варта яму дапамагчы?..

Не надта папулярныя „хрысціянскія" мадэлі сям'і ў беларускай вёсцы.

— Мы ж ім падказвалі, што ўсіх дзяцей нараджаць неабавязкова. Але яны за нішто слухаць не хацелі. Цяпер хай пацешацца. А нам толькі сорам пераносіць за іх. Бо тут экскурсіі многія прыязджаюць, царкву наведваюць, ведаеце, а адтуль з панадворка заўсёды куча запэцканых дзяцей выбягае, — наракалі мае інфарматары. Але апрача нараканняў таксама выяўлялі захапленне „прадпрымальнасцю" дзяцей.

— Яны трускалак не садзяць, але прадаваць кошыкамі прыносяць. У суседкі то нават капусту перасадзілі. На грыбы ў чатыры гадзіны зрываюцца, — расказвалі, засцерагаючы ананімнасць, аднавяскоўцы. — Радзі Бога, хаця імёнаў нашых не пішыце. Іхняя баба такая сварлівая, што нам з Трасцянкі ўцякаць прыйдзецца.

**Ганна Кандрацюк**

# БАС тонка спявае

*Працяг са стар. 1*

налістаў і сімпатыкаў БАС без права голасу, чалавек пад пятнаццаць. Другая несумненная справа — у БАС добрыя арганізатары. Сведчаць пра гэта наогул добра падрыхтаваныя студэнцкія мерапрыемствы. Але, на жаль, бракуе ім канчатковай глянцоўкі. Не ідзе мне тут пра тое, што, напрыклад, на „Атрасінах" у апошні момант бракуе якогасьці кабелю, ці гукаўзмацняльніка. Гэта ўсё ў парадку. Студэнцкім імпрэзам вельмі бракуе ідэалагічнай надбудовы, якая прыцягнула б да БАС новыя адзінкі. Возьмем, для прыкладу, „Атрасіны". Усё завяршаецца прысягай беларускага студэнта, а затым усе разлазяцца, кожны ў свой бок. Словы прысягі, якімі прыгожымі і ўзнёслымі яны не былі б, самі па сабе маладога студэнта да беларускага руху не схіляць. Ці не варта было б гэтых свежа атрэсеных студэнтаў-першакурснікаў ужо ў час „Атрасінаў" прыпрасіць да арганізатарскага стала і... супольна з імі запланаваць нейкі двухдзённы інтэграцыйны рэйд-вандроўку? Нішто так не даацэньвае чалавека як абавязак, які яму на хаду даручаецца. Прадстаўлены тут падыход да маладых студэнтаў можна нейкім чынам перанесці на любую іншую студэнцкую форму дзейнасці. Не кажу, што поспех ад гэтага гарантаваны, але паспрабаваць варта. Паспрабаваць не толькі быць добрым арганізатарам у аператыўным сэнсе, але звяртаць большую ўвагу на ідэалагічнае кіраўніцтва рухам і разумны падзел абавязкаў у ім.

Сёмы З'езд Беларускага аб'яднання студэнтаў выбраў наступныя улады:

1. Старшыня Галоўнай рады БАС: Тамаш Тапалеўскі.
2. Галоўная рада БАС: Гражына Адамік, Альжбета Бурачэўская, Міраслаў Ваўранюк, Марк Дажынка, Аля Каўбасюк, Дарота Сульжык, Юрка Сульжык.
3. Рэвізійная камісія: Аня Адамік, Эва Заброцкая, Ася Якубюк.

**Аляксандр Максімюк**




**С. Яновічу**

Палову свайго жыцця здавалася мне, што Сакрат Яновіч з'яўляецца ўзорам талерантнага беларускага патрыёта. На жаль, у змененых польскіх абставінах пачатку дзевяностых гадоў стаў ён палітычным прыстасаванцам, калі не саюзнікам зыходзячага прасалідарніцкага руху, а што горшае — адным з ініцыятараў развальвання папярэдняга беларускага руху ў Польшчы, аб'яднанага ў БГКТ.

Невялікі яго артыкул „Куды гне Сяргей?", змешчаны ў „Ніве" н-р 51 за 1994 г., у якім ён асуджае пасла сучаснага Сейма Польшчы Сяргея Плеву ў барацьбе з беларускімі нацыяналістамі, а беларускую грамадскасць у здрадніцтве, з'яўляецца працягам папярэдняй барацьбы пры дапамозе надуманых фактаў, з якіх гэтым ра-зам прыводзіцца толькі адзін. Повадам паслужыла гутарка двух сяброў: Сакрата і Сяргея (ну, Сакрат быў з жонкай!). Іх палітычныя шляхі крыху разышліся, але як вынікае з пачатку артыкула, няўдзячная беларуская грамадскасць зрабіла С. Яновічу крыўду — аддала свае галасы за С. Плеву, які „... з камуністаў" (паправім аўтара — з сацыялістаў), і які не адрокся сваіх беларускіх каранёў. І гэта праўда. Сяргей Плева захаваў лучнасць са сваім асяроддзем на роўні з іншымі калегамі, а да таго ў маладосці быў удзельнікам танцавальнай групы Калектыву песні і танца ГП БГКТ. Моладзь не надта любіла харэаграфію, а ён усё ж заставаўся ў групе. Для нас тым больш прыемна, што ён здабыў сабе ў грамадскасці Беласточчыны давер цяжкай працай на пасадзе старшыні найвялікшага кааператыва жыллёвага будаўніцтва ў Беластоку і, будучы паслом, не забыўся пра Беларускае таварыства. Калі верыць зарубейчыкам, дык на згаданай сустрэчы сяброў пасол С. Плева, успамінаючы ўражанні ад фестывалю беларускай песні, фэстынаў і іншых культурна-асветных мерапрыемстваў, найвышэй ацаніў працу БГКТ. Паколькі гутарку вёў на польскай мове, наш пісьменнік выкарыстаў момант, каб яму „далажыць" у беларускамоўнай газеце, якая дзе-нідзе выбаршчыкамі чытаецца. Выбары яшчэ далёка, адной гутаркай на польскай мове пасол апошнім „...літаральна дванаццаці чалавекам" вайны не аб'явіў. Прыемней было б, каб такая неафіцыйная сустрэча прайшла на роднай мове. У гэтым, на жаль, вінаваты часткова мы ўсе, а часткова неталерантнае да беларускай мовы польскае асяроддзе.

Не ведаю, на якой падставе Сакрат Яновіч лічыць, што пасол будзе есці хлеб тады, калі „... завозьмецца крычаць нямым голасам на ўсю Польшчу і даносіць куды трэба" аб беларускім нацыяналізме. Абраза гэта Сейму і паслу. Каму даносіць і на каго — прозвішчы нават тых 12 апосталаў не вядомы. Аднаго мучаніка беларускай справы можна было б назваць. Можа не варта прыдаваць ім так многа місійнасці, што толькі яны „...умеюць пісаць і акуратна гаварыць на мове беларускай культуры". Ёсць жа ў нас працаўнікі і выпускнікі Кафедры беларускай філалогіі, ліцэяў з беларускай моваю навучання як прадметам, настаўнікі роднай мовы і людзі іншых прафесій, якіх карані сягаюць беларускай культуры. Абражальна гучыць сказ аўтара аб тым, што беларуская простанародная маса „пераарыентавалася супраць беларушчыне". Можа толькі ў мове і толькі ў Беластоку? Над іншымі закідамі проста не хочацца затрымлівацца.

У сучасным Сейме Польшчы пасол С. Плева ў нас адзін, які цікавіцца працай усіх беларускіх арганізацый як член сеймавай Камісіі па справах нацыянальных меншасцей і дапамагае ім. Ад асяроддзя таксама не адрываецца. Сярод многіх сустрэч адну правёў у БГКТ, з якой прысутныя былі задаволены. Мы далей лічым на яго зразуменне.

Пара аднак падумаць аб спалучэнні сілаў і працы ў карысць беларускага асяроддзя. Інакш мы страцім многа з ранейшых дасягненняў. Сучасных палітычных ігрышчаў у краіне няма патрэбы пераносіць на асяроддзе ўстойлівай беларускай нацыянальнай меншасці на Беласточчыне.

**Уладзімір Юзвюк**

* * *

З радасцю прачытаў я ліст Уладзіміра Юзвюка, які рэагуе ён на маё выступленне, апублікаванае ў *Ніве* пад загалоўкам *Куды гне Сяргей?* Згодны я з ім шмат у чым, але найперш у тым менавіта, што беларускім дзеячам ды арганізацыям трэба яднацца. І чым мацней бяда іх прыцісне, тым хутчэй тое адбудзецца.

Засмуціла мяне ў лісце Юзвюка толькі адно: абыходзіць ён кругам саму тэму майго выступлення. Я не супроць пасла Сяргея Плевы, а супроць яго змагання з *беларускімі нацыяналістамі*, якое аднаэначна лічу надуманым, штучным, і не спрыяючым спомненаму яднанню.

Гэта таму я не падаў рукі паслу Сяргею Плеву ў час надаўняй вядомай сустрэчы з віцэ-міністрам Ягелам і віцэ-ваяводам Рыкоўскім, прысвечанай нацыянальным меншасцям Беласточчыны.

**Сакрат Яновіч**

# Расказ дзеда Хмяля з Вітава

### Пра Грамаду

„У Грамадзе быў мой бацька, маці, сястра і брат, усе былі. Гаварылі „Грамада жалеза рве", хацелі аўтаномію, каб не быць пад палякам.

Мой дзядзька Кандрат Іванюк з Вітава быў „закапёршчыкам" у гэтай Грамадзе. Чалавек ён быў вельмі вучоны, скончыў віленскі інстытут і быў царскім афіцэрам. Калі паліцыя разграміла з'езд Грамады ў Стараберазове, ён уцёк адтуль, пераначаваў у дзядзькі ў Кашалях, а пасля ўцёк у Расею, у Бугуруслан. Там яму далі 25 гадоў і ўжо не вярнуўся.

Палякі нікога з Вітава не арыштавалі. Як Грамаду разагналі, дык пагасла яна як свечка. Пад Пілсудскім нічога не маглі зрабіць. Не было арганізатара — усе баяліся".

### Пра вайну

„Першы немцы былі добры. Саветы гаёвых вывезлі, ужо яны не вярнуліся. У школе вучылі па-руску. За Польшчы ўсё было па-польску.

За другога немца спакойна сядзелі, гарэлку гналі. Немцы бункер пры дарозе за вёскай пабудавалі. Іхні оберлёйтнант быў добры, гарэлку піў і да дзевак хадзіў. Усе так рабілі, каб козы былі сыты і сена цэлае. Вітава пражыло вайну як у Бога за печкаю".

### Пра польскае пасляваеннае падполле

„Акаўцы, няхай іх гром спаліць, бандыты былі, больш ніц. „Do raju" нас выганялі.

Забілі майго брата Цімафея, бо быў партыйны. Брат хацеў у Расею ехаць.

Карніла Васілюк быў тады солтысам у Вітаве. Паехаў на сход у Гайнаўку. Гарачы быў, гаварыў, што каб меў ружжо, дык усіх акаўцаў перастраляў бы. І яшчэ пералічыў, хто ў Вітаве надзейны. А там у Гайнаўцы акаўцы былі пры ўладзе, усе ўраднікі былі акаўцы. Хваліўся Карніла, як Вітава добра дзейнічае, дык узяліся акаўцы за Вітава.

Вечарам прыйшоў у хату чалавек у савецкай форме і выклікаў брата. Я гавару брату: „Уважай", але як прыйшоў савецкі афіцэр, дык брат пайшоў.

У нас быў Кавальскі Болек. За немца збожжа прымаў у Орлі. Акаўцы яго забралі. Валодзя Германюк сказаў: „Хлопцы, не рассасулівайце".

Вечарам у 10 гадзін акаўцы прыйшлі ў нашу хату, пачалі грабіць. „Czego ty, skurwysynu, do raju!" гаварылі.

Мы якраз забілі свінню, мяса жарым. „Давай сала", — крычаць. Мая баба, як кожная, скупаватая, кілаграм прынесла. Сказалі, што самі пашукаюць і ўсё забралі. Забралі сундук з бялізнай, гадзіннік. Быў у мяне суседскі сундук, пайшоў я за ім. Пайшоў са мною адзін акавец. Як вярталіся, дык я думаў, што тут ён мяне і пакладзе, але адпусцілі.

Я меў аўтамат у клуні і дубальтоўку у лесе, але ж знячэўку нас узялі. Сказалі: „Masz broń". Думаю, Карніла і брат выспавядаліся, але гавару: „Шукайце", бо былі упэўнены, што не знойдуць.

Як скончылі, дык пачалі піць і пілі, пілі. Ажэлкі мелі з каронаю, раніцай маліліся і жагналіся".

**Запісаў**
**Алег Латышонак**

# ГОД 1935

Сумныя водгукі плывуць апошнім часам з усіх куткоў Усходняй Еўропы. Не відаць канца вайне на тэрыторыі былой Югаславіі. Пакуль змоўкне там апошні выстрал, будуць падпісаны яшчэ дзесяткі пагадненняў, на якія і так ніхто не зверне ўвагі. Раз пралітая кроў, нягледзячы на тое, хто быў вінаваты, стварыла сітуацыю, якая патрабуе новых ахвяраў. Да вайны супраць сербаў з Краіны рыхтуюцца харваты. Краіна патрэбная ім так, як расейцам Чачня. Гэтая апошняя назва становіцца ўжо сімвалам абсурднасці сучаснай палітыкі.

Нашую частку кантынента ахапіў параліч шавінізму і ніякія рацыянальныя аргументы не ў змозе паўстрымаць спознены ўсходнееўрапейскі рамантызм. На захадзе кантынента адкварэлі гэты інфаркт на пачатку нашага стагоддзя. Найбольшыя праблемы мелі немцы. На Усходзе доўга скрываныя пад плахтай „братэрства і дружбы народаў" бэстыі выпаўзлі на трыбуны, на экраны тэлевізараў, перад мікрафоны радыёстанцый, на старонкі прэсы. Вакол сябе бачаць яны ворагаў сваё нацыі, рэлігіі, расы. Хутка далучыліся да іх некаторыя былыя „інтэрнацыяналісты". Традыцыйна ўжо ўсяму вінаватыя ўсялякія меншасці, а асабліва яўрэі. Пасля шасцідзесяці гадоў вярнуўся год 1935. Усе псіхалагічныя станы тае эпохі сталі надта відавочныя. Люмпенізацыя грамадскай думкі ідзе штораз большымі тэмпамі, ахопліваe амаль усе грамадскія групы — рабочых, беспрацоўных, моладзь, духоўнікаў, інтэлектуалаў. Даўнія жрацы марксісцкага веравызнання раптам загаварылі супольным голасам з хрысціянскімі святарамі. Малады беластоцкі „патрыёт" з партыі Млодзеж Вшэхпольска адкрыта заяўляе, што частку яўрэяў трэба пасляць у газавую камеру (Gazeta w Białymstoku, nr 11). Ён сам — студэнт юрыдычнага факультэта Філіяла Варшаўскага універсітэта. Неўзабаве будзе супрацоўнікам суда ці пракуратуры. Можна сабе ўявіць такіх ахоўнікаў справядлівасці, якіх погляды, падобныя да прэтарыянаў нейкага фюрэра. Так як у трыццатых гадах, так і цяпер ніхто не звяртае ўвагі на іх словы. Такіх людзей хтосьці таксама выхаваў — дома, у школе, універсітэце. Але ці гэта не дзіўна, калі ўзорны хрысціянін, выхаваны быццам бы ў хрысціянскім асяроддзі, без ніякага сумнення пасклаў бы на смерць людзей з прычыны іх нацыянальнай іншасці. Няма аднак чаму здзіўляцца, калі святары прамаўляюць ваенным слангам, у вайсковых уніформах вядуць душпастырскую місію і асвячаюць стволы танкаў. Неяк удалося ім спалучыць ідэі, якія выцякаюць з „Евангелля", з мэтамі існавання арміі.

Варта таксама звярнуць увагу на тое, што пішацца пра суседнія народы ў падручніках па гісторыі. Беларусаў увогуле не было, з'явіліся зусім нядаўна — можна дадумацца, што як царска-бальшавіцкі дэсант, твор русіфікатарскай практыкі Масквы. Чаму тады здзіўляцца, што адносіны да нас людзей выхаваных на такіх ведах не ёсць найлепшыя. Калі малады чалавек пару гадоў слухае „аўтарытэтаў", што Рэч Паспалітая значыць тое самае, што Польшча, няма чаму здзіўляцца, калі паста гаворыць, што Хадкевічы былі палякамі, а Менск быў польскім горадам, і з абурэннем рэагуе на інфармацыю, што ў Беластоку ёсць нейкія мясцовыя беларусы. А калі ёсць, то адразу нацыяналісты, бо самавызначэнне сябе беларусам успрымаецца як праява антыпольскасці.

Пры ўладзе цяпер людзі, якія пачуваюцца да абавязку даказаць, што яны вялікія патрыёты. Апазіцыя — суперпатрыятычная — называе іх амаль касмапалітамі. У такой сітуацыі пра становчае вырашэнне якіх-небудзь праблемаў беларускай меншасці ў Польшчы няма чаго і марыць. Няма ў найбліжэйшым часе перспектываў на ўзнікненне беларускага культурнага цэнтра, ні навуковага інстытута, ні школ з беларускай мовай навучання. Прагрэсам будзе, калі тое, што ёсць, не будзе абмяжаванае. Таксама думалі сябры Таварыства беларускай школы ў 1935 годзе. Год пасля не было ўжо над чым думаць.

**Яўген Міраnовіч**

# БЕЛАВЕЖА

*СТАРОНКА ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКАГА АБ'ЯДНАННЯ № 421*

*Рэдактар: Сакрат Яновіч*


*ЗЬНІЧ*

## Бывай, Негоіса!

*(з новай паэтычнай кнігі)*

### *Роздум пра сына чалавечага*

... і люд, і вучэнні, і сэрца пытаю:
хто можа — зь зямлян — параўнацца з Табой?
самотны пустэльнік — што Вечнасць гукае?
уяўны альбо натуральны герой?

... сумлівы нашэптваюць: Ён — гэта мара...
Ён — вобраз, сатканы зь бясьсільнай тугі,
з надзеяў, што попелам дум і пажараў
пакрылі крывавых вякоў берагі.

... гісторыя тчэцца з удач і удараў...
хаваюцца целы, як лісьце, у дол.
Ї ціха, з-пад барвы маланкавых хмараў
праменьчыкам бліскае белы Анёл.

... даруй мае крыўды, ахоўнік-Анёле,
я, часам, аглохлы... а ты — не маўчыш...
Ты мне — напамін: да зямное нядолі
імчыць паратунак — маланкавы Крыж!

### *Касавінка і мы*

Побач з Хрыстом — і так далёка! —
памёр разбойнік на крыжы...
у болю й злосьці — як і жыў —
без пакаяньня й без выроку.

другі — ў апошнюю хвіліну —
цаною здрады сябрукам...
ды згубным дэманскім шляхам —
знайшоў да Бога пуцявіну.

а трэці, пушчаны на волю
замест распятага Хрыста —
ён н а м і незаўважна стаў:
г і с т о р ы я й
і н а ш а й д о л я й.

### *Грахі гісторыі*

я чую голас успамінаў —
нібы з магілы ўсіх вякоў:
Сьвяшчэнны абавязак сына —
як крыж, цягнуць грахі бацькоў!

мне гэты камень не па сілах...
я падаю... і я малю:
не аддавай душу ў магілу...
Ойча, я ворагаў люблю...

ўспаміны сьцішацца сівыя
і голас, жорсткі і сухі —
і я Вялікае Расіі
дарую даўнія грахі!

і новай руньню ўстануць пожні
стагодзьдзяў змрочных і глухіх —
і я дарую братняй Польшчы
яе шляхотныя грахі.

я ўхілюся ад сірэнаў
і падымуся ад сахі —
і я Нямеччыне зьмірэннай
дарую Марсавы грахі...

Літаньнем павярну на схіл
паразу жарсную й цяжкую —
люду Абранаму дарую
антыхрысьцьянскія грахі!

тысячагодзьдзяў злыя раны
праўвуцца, бы гнілы пухір —
і я дарую Ватыкану
палітыканскія грахі...

я прытулю матэрыкі,
што пад драконам акаянным —
фундамэнтальным Басурманам,
ды новым златаскурым Ханам,
ды нова- і стара-Паганам
дарую Саўлавы грахі.
..................

і Дух Сьвяты аблашчыць сэрца,
як ноч, адыйдзе дух ліхі.
і возьме валадарства сьмерці
мае ў л а с н ы я грахі.

### *Пакаяньне — пад Зоркай-Палын*

у „мяшанца" — няпросты лёс:
ён паўсюдна — самотны чужынец...
ды мігціць яму зорны гасьцінец —
уваскрослы м я ш а н е ц — Хрыстос

на правох небаракі-мяшанца
(ён — нялюбы ўва ўсіх „лягерох")
паспрабую ўраз разабрацца
у „чужых" і ва ўласных грахох

... хай-жа-ж Немчыкі будуць узорам
пакаяньня й цярпеньня — у с і м!
хай народы, што змоўклі зусім,
стануць — В е л ь к і м — маўклівым дакорам

ня ўважце за блюз, ці за scherzo
тое, што зарыфмару цяпер:
хай блюзьнерыць ці кпіць малавер —
большае за Сусьвет
м а ё с э р ц а

большае й за народ... і за людзтва,
бо ў ім — і шатан... і Гасподзь.
акаянная рэўнасць — выходзь
з маіх хціўых, парэпаных вуснаў!

плач, як Пётра, народ Бела-Русаў,
бо ты здраджваў веры бацькоў
больш, чым тройчы... ў абдымках братоў...
пад чужынцам, што ў сэрца плявузгаў
апаганьваў сядзібы паноў...
Храмы Божыя... людзкія гнёзды...
ды мяняў у спакусах стагодзьдзяў
на гэрэзаў — сваіх Сьвятароў

плач, нашчадак Імпэрыі Русаў:
бацька браў і Парыж... і Бэрлін,
а цяпер — без вайны! — кволы сын
адыходзіць амаль да... Тарусы

плач сьлязамі ўдзячнасьці Богу,
бо гардыню тваю ўтаймаваў,
бо Сьвятыні твае ўратаваў
ды зь бясоўскага вывеў астрогу

вох! — пакайся, народзе а б р а н ы —
бо й п а с ь л я Укрыжаваньня Хрыста
ты асновы Хрыстовае Улады
у Дзяржавах ушчэнт расьхістаў

вагары хітраваньня чужынцаў
у Айчынах Хрысьцьянскіх знайшоў:
ад бясоўскіх забаў якабінцаў
да ГУЛАГ-аўскіх бальшавікоў

так!.. Сумоўе Хрысьцьянскіх Манархій
ты ў сьвеце панішчыў амаль...
Рабінатаў тваіх Патрыярхі
мала кажуць пра гэта, нажаль

...........................

сьпіс грахоў можна доўжыць б я с к о н ц а
і ўсе яны — пэўна-ж! — мае!
перад Тым, Хто з Крыжа паўстае
дараваньня і літасьці Сонцам

Далібог, столькі зла на Зямлі —
што і ў Ангелаў сіл не хапае...
і Хрыстос н е ў м а л я т а к г у к а е,
каб — за нас! — памаліцца маглі

Роўна-Апостальны Канстаньцін,
твае Боскае Звыш-Дзяржаве
вечна жыць — у Хрыстовае Славе,
у Яйцэ й Дусе Сьвяце!
Амінь.

### *Адвечнае*

...каб сьвет адвесьці ад бяды —
успомнім, як жылі Дзяды

... страх Божы быў жыцьця асновай —
і спадчыннай, і вечна новай...
Закону Божаму — зямны
быў адпаведны без маны.
Сымфонія Царквы й Дзяржавы
сумленьнем правіла і правам.
стагодзьдзямі той Верны Лад
быў ад Каляд і да Каляд.
... ды дух сьмяротны, дух-сумліў
на бунт бязбожны спакусіў
і праз зьняверанных балбесаў
да нас прыйшло... стагодзьдзе бесаў.

... каб болей ня было бяды,
успомнім — ЯК жылі дзяды...

### *Бы ў 1812-м*

...Русь Белая — як і т а д ы —
глядзіць ад-рознымі вачыма
на хросны шлях Сьвятаайчынны...
на знак ратунку і бяды...

### *Роздум пра разьвітаньне*

калі пра подзьвігі мядовыя
казаў стары Хэмінгуэй,
гукалі з вусьцішных завей —
апошні шлях... абшары новыя...

... і ён прыняў ліхі дарунак
сваёй адданае сяброўкі —
прыгожай, вернай дубальтоўкі:
апошні
жарсны
пацалунак.

ня так Самотнік*) адыходзіць:
у малітоўным посьце... ў сьне...
ў штодзённым ложку — у труне —
пытае Госпада
„...ці х о ч а ш?"

-------------
*) Монас — Манах — Самота

### *Бывай, Негоіса!*

Народу абранаму:
народ-жаным і будучым
ч а д а м Хрыстовым

ня скасаваўшы шлюб са зброяй —
пайшоў ад нас Хэмінгуэй...
о, людзе грэшны, ня дурэй,
скажы: — Бывайце!.. —
ўсім г е р о я м.

павадыроў passionar-ных —
ды іх крывавыя сьляды
у сэрцах — выкрый назаўжды,
як музаў, д'ябала пачварных.

вярніся, блудны сыне, ў рай!
там ты пакінуў сэнс і волю.
пераступі цераз „н і к о л і",
скажы: —
Негоіса, бывай!

---

*Ян Леаньчук*

### Неўзабаве світанак

маці мая
працягвае рукі
просячы жыцця

запальваю свечку
загледзеўшыся
ў патухаючыя павекі

— неўзабаве світанак — паўтараю
неўзабаве світанак

### Містэрыя

бацька
ў пераджніўны час
клаў нашыя галовы
на апошнюю
залатую буханку хлеба
блаславіўшы
пару заспакаення

цяпер на змярканні
таксама працягвае рукі
прагнучы іх пакласці
на сыходзячае сонца
з надзеяй
што паўстрымае
цякучы час

*Пераклаў Віктар Швед*

*Віктар Швед*

### ІКОНА

*Памяці Маці*

Была ў нас святасцю ікона,
Яна жыла заўсёды з намі.
Маці малілася з паклонам
Перад святымі абразамі.

Ї нас, малых дзяцей, вучыла
Не забываць ніколі Бога.
Ї многа аддавала сілы
Каб не сысці нам з той дарогі.

Вайны грымела кананада
Ї дым клубіўся чорнай хмарай
Ад частых выбухаў снарадаў,
Што пагражала ўсцяж пажарам.

Ї не зважаючы на тое,
Што смерць гразіла безупынку,
Маці з іконаю святою
Абходзіла наўкол будынкі.

Калі спакойна стала ў хаце,
Фронт адышоў далей на захад,
Паверылі мы: Божа Маці
Спас дала нам ад ваенных жахаў.

Жыццё прайшло матулі з Богам,
З Богам пакінула старонку.
Ёй у апошнюю дарогу
У рукі мы далі іконку.



Мал. Міколы Давідзюка

*Кшыштаф Бачкоўскі*

* * *

часам гэтыя прыгожыя жывёлы людзі
вяртаюцца ў сны альбо ў маленства
— як коні на спавольненым фільме —
зялёныя грывы і белыя галіны хваль

але найчасцей праходзяць міма
у брудных касцюмах
як і я праходжу
— побач сябе
у нудоце ўласнага болю

Бога няма
і таму яго не магу пазваць,
засталася Смерць,
але без касы ў далонях,
трымае пустэчу квіток з хімчысткі
і аловак
і крэсліць ім планы жыцця

*Пераклад з польскай Міры Лукшы*

# Зорка
## старонка для дзяцей

## Не хачу, не буду

— Не хачу, не буду! Годзе!
Мама просіць, мама годзіць:
— Хочаш — суп,
а хочаш — каша,
з'еш хоць лыжку, донька наша.
— Не хачу, не буду, хопіць!
— Дык абед сарока ўхопіць.

Гэта чулі дзве сарокі,
што сядзелі недалёка.
Наляцелі, ухапілі,
панаслі абед на крыллі.
— Тра-та-та,
смаката!
Паядзім —
не аддадзім!
Лыжку — супу,
лыжку — кашы,
хай дужэюць дзеткі нашы.

І траскочуць дзве сарокі:
— Да вячэры шчэ далёка!
Вінаватая сама:
быў абед — і больш няма.

**Ала Канапелька**



*Двухгадовая Маруся Адамюк з Чыжоў.*
Фота Міколы Ваўранюка

### Якія гістарычныя даты павінны памятаць і шанаваць беларусы?

**25 сакавіка** (1918 г.) — Дзень Незалежнасці. У той дзень Трэцяя Устаўная грамата Рады Беларускай Народнай Рэспублікі абвясціла БНР — незалежную і вольную дзяржаву.

**15 ліпеня** (1410 г.) — Свята Грунвальда (Свята перамогі пад Дуброўняй). Дзень перамогі аб'яднанага войска Беларускай і Польскай дзяржаў над крыжакамі.

**6 жніўня** (1517 г.) — Дзень друку — выданне ў Празе Францыскам Скарынам першай беларускай друкаванай кнігі.

**25 жніўня** (1991 г.) — Дзень Адраджэння. Прынццце Дэкларацыі аб незалежнасці дзяржавы.

**8 верасня** (1514 г.) — Свята Аршанскай перамогі. Дзень беларускай вайсковай славы. Беларускае войска разбіла ў 3 разы большае войска Маскоўшчыны.

**27 лістапада** (1920 г.) — Дзень Слуцкага збройнага чыну (Дзень Герояў). У гэты дзень пачаў баявыя дзеянні супраць бальшавіцкага войска Першы Слуцкі полк Беларускай Народнай Рэспублікі.

## Беларускія нацыянальныя скарбы

Самыя каштоўныя рэліквіі для беларусаў паходзяць яшчэ са старажытнасці.

**Крыж Еўфрасінні** Полацкай зроблены ў 1161 годзе. Выканаў яго майстар-ювелір Лазар Богша. Крыж знаходзіўся ў царкве св. Спаса ў Полацку. Унікальны помнік беларускага мастацтва з'яўляецца таксама хрысціянскай рэліквіяй. У ім захаваліся часцінкі крыві Ісуса Хрыста, часцінка Крыжа Гасподняга ды іншыя хрысціянскія каштоўнасці з Канстанцінопаля і Ерусаліма.

Крыж гэты важны беларусам і таму, што атаясамліваецца ён з нябеснай заступніцай Беларусі, святой Еўфрасінняй Полацкай, славутай асветніцай. На жаль, у час II сусветнай вайны крыж быў вывезены з краю. Пошукі гэтай нацыянальнай каштоўнасці вядуцца да сёння.

Да нацыянальных скарбаў залічыць трэба сыгнет князя Ізяслава, сына Рагнеды, пярсцёнак славутага Усяслава Чарадзея, Тураўскае Евангелле XI стагоддзя, Біблію Францыска Скарыны. Такімі рэліквіямі будуць абраз Маці Божай Вастрабрамскай ці Маці Божай Жыровіцкай, перад якімі маліліся шматлікія пакаленні беларусаў. З больш сучасных часоў нацыянальнай святасцю з'яўляецца пячатка Кастуся Каліноўскага і пячатка Беларускай Народнай Рэспублікі ад 1918 г. Варта памятаць аб гэтых каштоўнасцях.

## Пацешныя задачы

I. Дзядзька Міхась вельмі любіў тарты. Аднойчы купіў шакаладны торт вагою ў 3 кілаграмы і пачаў яго з асалодай каштаваць. Неўзабаве на талерцы тырчэлі адны ружы — марцыпанавыя аздобы, якія важылі 6 дэкаграмаў.

Пытанне: На колькі больш торта зараз у жываце дзядзькі Міхася, чым раней было на талерцы?

II. У пяцілітровым гаршку маці паставіла варыць суп з гароху. Мела яго быць 3 літры. Але выпадкова ў той жа гаршчок маці скінула яшчэ трохлітровы слоік варэння.

Пытанне: Колькі літраў не памясцілася ў гаршку?

III. Дваццаць тараканаў пакрыўдзіліся на дзеда і вечарам перайшлі да суседа. У той жа вечар сусед палічыў сваіх тараканаў: на кухні было іх 4.587 штук.

Пытанне: Колькі ўласных тараканаў меў сусед перад тым, як завіталі да яго тараканы дзеда?

*Паводле Г. Остэра*
*апрацавала*
**Ганна Кандрацюк**

*Канстанцін Дзячэнка*

## Цяжкая літара

Бора „эр”
Не вымаўляе.
Яму мама
Падсабляе:
— Кажы: „Рыба,
Рэпа, брама,
Марка, хмарка,
Зебра, грак”. —
А у Боры
Зноў жа так:
Рыба — „ліба”,
Рэпа — „лепа”,
„Малка”, „хмалка”,
„Зебла”, „глак”...
Аж чырвоны
Ўвесь бядак.
Мама ўстала —
— Эх ты,
„Боля”... —
Тупнуў злосна.
той хлапец:
— І не Боля я,
А — Бор-ра!!
— Ну, нарэшце...
Маладзец!

## Невідзімка

Ну, ніяк
Не дабяру:
Дзе ж малое
Кенгуру?
Толькі з
Мамаю
Скакала,
А пасля
Яго не стала?
А — а...
Вось як
Атрымалася?
У сумку
Маміну
Схавалася!

## Гарэза

На лужку,
Дзе рэчка ўецца,
Насарожык
Сам пасецца.
А тут муха
Клопат мела,
Як на грэх,
На рог прысела.
Ён за мухаю
Пагнаўся —
Бух у рэчку!
І скупаўся...
Што гарэза
Нарабіла —
Ледзьве ў рэчцы
Не ўтапіла!

## Барбос

Сябар ёсць
У мяне — Барбос.
Моцны ён,
Як цеплавоз.
Мы на санкі
З ім сядаем,
І з гары удвух
З'язджаем.
А на горку
Іх Барбос
Цягне сам, —
як цеплавоз.

*Пераклаў з украінскай*
**Валерый Бабей**

## Вясёлы куточак

Бацька пытаецца сына.
— За што ты ўчора атрымаў адзінку?
— За нашую супольную дамашнюю працу, тата.

* * *

Суседка гаворыць суседцы:
— Мая дачушка ўсё больш і больш да мяне падобная.
— На жаль, няма на гэта ніякага спосабу.

* * *

Міколка пытаецца бацькі.
— Тата, чаму ты баішся зайцоў?
— Адкуль у цябе, сынок, такія думкі?
— Дык навошта на паляванне ты ідзеш са стрэльбай і сабакам?

* * *

Настаўніца хвалюецца:
— Хто там зноў так круціцца?
— Зямля, — чуецца нейкі голас.
— Хто так сказаў? — дапытваецца настаўніца.
— Капернік.

## КРЫЖАВАНКА

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | | 2 | ■ | 3 | | 4 |
| | ■ | 5 | | | ■ | |
| 6 | 7 | | ■ | 8 | 9 | |
| ■ | | ■ | ■ | ■ | | ■ |
| 10 | | 11 | ■ | 12 | | 13 |
| | ■ | 14 | | | ■ | |
| 15 | | | ■ | 16 | | |

**Гарызантальна:** 1. каралева прыгажосці, 3. сярод рагатай жывёлы, 5. дзяўчынка з польскага буквара, 6. хросны бацька, 8. холад, сцюжа, зябкасць, 10. ім гуляем у футбол, 12. вялікая Пік-Пік, 14. казачны герой з Далёкага Усходу, 15. звер, на якога палявалі каралі, 16. на носе насарога.

**Вертыкальна:** 1. цвіце ў жыце, 2. вялікая рыба, 3. дрэва, 4. над брывамі 7. малая Уліта, 9. не мы а ..., 10. шах і ..., 11. цудная прыгожасць, 12. калі няма вайны, 13. крок.

Сярод тых, хто на працягу месяца дашле правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды „Зоркі”.

# Панарама здарэнняў або Што здарылася ў школе ў Орлі ў гэтым навучальным годзе


Атрасіны першакласнікаў. Хто першы ўкусіць яблык?


Смакуем горкія, кіслыя, салодкія шашлыкі і напіткі ў час атрасін.


„Атрэсеныя" першакласнікі.


Уборка яблыкаў у кааператыўным садзе ў Крывой.


Шасікласнікі на „анджэйкавай" дыскатэцы.



Вучнёўская крамка мае ўжо сваю назву — „Байка".

## Творчасць арлянскіх вучняў

***

Прайшла восень
і мароз за сабой прынясла.
Атуліла свет зіма пухам,
намалявала на вокнах кветкі,
каб цешыліся дзеткі.
А дзеці лепяць снежныя бабы
і не баяцца вострай зімы.

**Ася Будка,
кл. VIIIб**

### Зіма

Прыйшла зіма
і вялікі мароз прынясла,
снегам сыпанула,
палярыну расцягнула.
Птушкі даўно адляцелі,
а тыя, што засталіся,
есці захацелі.
Дзеці гуляюць, у снежкі іграюць,
Снежную зіму шчыра вітаюць.

**Бэата Уткін,
кл. VIIIб**


Сустрэча з паэтам. Віктар Швед чытае школьнікам свае вершы.

**Дарагая Зорка!**

Хочам напісаць Табе пра дэкламатарскі конкурс беларускай прозы і паэзіі, які адбыўся 13 снежня 1994 г. у нашай школе. Прымалі ў ім удзел дваццаць сем вучняў. Дэкламавалі яны вершы вядомых беларускіх паэтаў: Я. Коласа, В. Шведа, А. Барскага, і сучаснага празаіка С. Яновіча. У першай катэгорыі найлепш дэкламавалі Малгажата Рыбак, Магдалена Мартыновіч, Кацярына Васілюк, Дарота Бакун, Оля Рэнгайла. У другой катэгорыі найбольш падабаліся нам выступленні Алі Мартыновіч, Асі Будка, Івоны Лаеўскай, Бэаты Уткін, Янкі Бобіка і Мірка Галоўні. Гэтыя вучні паедуць на раённы агляд. Віншуем іх і жадаем поспеху!

**Вучні VIIIб класа
Пачатковай школы ў Орлі**

„Зорка запрашае ў „Панараму" ўсе школы і чакае цікавых здымкаў.




## СПРАВА МЯЛЕШКІ

*(„Ніва" н-р 43 ад 23.10.1994 г. і н-р 2 ад 8.01.1995 г.)*

**Panie Mieleszko.** Так папраўдзе не павінен я рэагаваць на вашыя лісты. Калі б справа кранала толькі маю асобу і гэта, што вы спецыяльна памыляеце „artystę" з „plastykiem" — шкада было б часу. Але вы, на жаль, за кожным разам, калі пішаце нешта ў прэсу, абражаеце гэтых, якія адчуваюць сябе беларусамі ў Гарадку. За вашыя погляды мы мусім саромецца, глядзячы на ўсмешкі іншых на Беласточчыне. І таму не магу маўчаць. Думаю, што хутка будзеце мець такую самую „славу", як Pan Kazimierz Siemieniako са сваімі „Pod różnymi krzyżami". Жадаю поспехаў! Яшчэ бяда ў тым, што гэта не вы пішаце тыя лісты, а вамі проста карыстаюцца, паўтараючы знаёмыя нам лозунгі, каб дыскрэдытаваць усё гэтае, што вяжацца з беларускасцю. Таму не здзіўляйцеся, што хтосьці мае да вас нейкія закіды, бо ніхто б не рэагаваў на ваш ліст у „Przegląd Prawosławny", каб вы толькі абмежаваліся да выпраўлення памылковай інфармацыі.

Сапраўды БДА ў Гарадку не выйграла 18 мандатаў у самаўрады. Але вы, **Panie Mieleszko**, лічыць умееце, праўда? І што 12 + 1 (толькі налічвае чалавек Беларускі клуб у гарадоцкім самаўрадзе), гэта больш чым 5, то ведаеце. Таму няма сумненняў, хто выйграў выбары. Але не можаце пры гэтым пісаць, што: „Nieprawdą jest, że Gródek jest tradycyjnie białoruski. Faktycznie, gminę Gródek zamieszkuje w większości ludność wyznania prawosławnego. Nie świadczy to jednak o ich przynależności narodowej". Як можаце пляваць у сваё гняздо?! Што сказалі б на гэта дзяды ды прадзеды — а гэтых мы маем супольных. Падумайце толькі, што калі вы сароміцеся сваіх продкаў, то і вас могуць дзеці ў будучыні саромецца. Вы ж ім даеце наяўны прыклад, як трэба паводзіць сябе ў жыцці.

Здзіўляецеся ў лісце ў „Ніву", што беларускае асяроддзе на вас абураецца і яшчэ хочаце, каб вас перапрасіць? А за што? І хто каго павінен перапрашаць? Да гэтага зноў абражаеце нас, жыхароў Гарадоцкай гміны, перакручваючы факты з артыкула і ставіце паміж „pijaków" і „członków Białoruskiego Zjednoczenia Demokratycznego" „Wójta Gminy Gródek". Так, мы ваш намёк зразумелі, але ж вы ёсць райцам у гэтай гміне і гэта таксама ваш войт! Ці гэтага таксама не можаце ўшанаваць?

Але не буду палемізаваць за іншых кранутых вамі ў лісце, „кожны свой розум мае" і да гэтага пісаць умее.

Вы стараецеся акампраметаваць мяне, унушаючы, што я паляк. Бярэце фрагмент майго прыватнага ліста дырэктару Музея войска ў Беластоку, пану Кшыштафу Філіпаву, які летам стрымаў раскопкі на Замкавай Гары ў Гарадку. Існавала пагроза, што прападзе 100 мільёнаў злотых, прызначаных на тую мэту. Ці ведаеце, што па гэтых усіх інтэрвенцыях раскопкі пачаліся? Ці ведаеце на колькі мы сталі культурна багацейшымі, дзякуючы таму, што вынялі з зямлі? Мы, гэта значыць: я, вы, і вашыя дзеці. А што вы зрабілі як райца ў гэтай справе? Вы толькі цытуеце: „Myślę, że Pan mieszkając na tej ziemi reprezentuje Polskę jako malarz w kraju oraz poza jej granicami" — так **Panie Mieleszko**, але як беларус і за тое палякі мяне шануюць. Я грамадзянін гэтай краіны. Вы проста памыляеце нацыянальнасць з грамадзянствам.

Наступную цытату бярэце гэтым разам з „Czasopisa": „... tu powoli sytuacja się normalizuje. Ludzie przekonują się, że są u siebie" і далей іранізуеце: „a gdzie byli do tej pory?" **Panie Mieleszko**, дзе мы былі да гэтай пары, то людзі ведаюць. Але дзе вы былі? Дзе былі, калі трэба было арганізаваць першы раз самаўрады ў дзевяностым годзе? Толькі паказаліся вы зараз і пішаце, што БДА „ostro zwalczało nasz Komitet", гэта значыць „Razem". Ці вы часам не лжаце? Калі вы такі „prawosławny Polak", то ці не павінны з гэтага выспавядацца? Людзі ў Гарадку добра ведаюць, якая была праўда. А калі вы не ведаеце, што раней немагчыма было сарганізавацца нам, як беларусам, без ніякага „Pana", або кагосьці, хто ўдае „pana", то працытую вам „Gazetę Wyborczą" (5.XII.1994 г.), бо мне можаце не верыць. „Metody asymilowania mniejszości w gruncie rzeczy nie zmieniły się aż do ostatnich lat PRL-u. Władza nagradzała, w szkole, w pracy ostentacyjny akces do polskości, karała za publiczne identyfikowanie się z kulturą ojców i dziadów. Obnoszenie się z przynależnością do mniejszości narodowych niemal zawsze zamykało drogę do awansu w pracy i kontynuowania nauki, zwłaszcza w szkole wyższej". Думаю, што вы крыху спазніліся, **Panie Mieleszko**.

У Гарадоцкай гміне беларусы адразу скарысталі дэмакратычныя правы III Рэчы Паспалітай і сарганізаваліся, як умелі, у БДА. Выйгралі выбары, і можна было нармальна працаваць, без такіх камедыяў, якія былі, напрыклад, у Бельску-Падляшскім. Цікава, ці вы і вашая жонка мелі б працу і спакой, калі б вы так плявалі на „Solidarność", як вы зараз аплёўваеце БДА? І калі яшчэ думаеце, што гранічны пераход у Бабраўніках, вашая там праца, асфальт перад вашай хатай гэта самое па сабе зрабілася, то памыляецеся. Хтосьці тут раней працаваў, калі вас пры гэтым не было. А цяпер чакаем, як многа вы зробіце для нас.

Засталася яшчэ адна справа. **Вы не можаце абражаць нашай мовы! Для нас, гэта матчынае слова і не пазволім яе паніжаць.** „Młodzieńcze lata spędziłem na ziemi gródeckiej i nie spotkałem się tu z mową czysto białoruską. Rozmawiało się i dzisiaj w większości rozmawia „po prostu", czyli mieszaniną słów polskich i białoruskich". **Panie Mieleszko**, чаму вы не можаце ўшанаваць іншых? Калі будзеце ў гарадоцкай царкве, гляньце направа, на Святога Мікалая, і прачытайце, што ў яго напісана на кнізе. Я будучы ў Войску Польскім, жывучы тут разам з вамі, слухаючы палякаў на Беларусі, наслухаўся рознай польскай мовы. Але ніколі не скажу, што гэта „prosta", а не польская, мова. Кожны гаворыць як умее, нават наш Пан Прэзідэнт. Таму і вы не абражайце нас і можа крыху больш пачытайце. От, хаця б Сцяпана Пятэльскага — Арла (niestety też z Gródka), які пісаў ужо ў 1913 годзе пані Мачульскай у адказ на яе артыкул у „Народным образовании" (н-р 1). Яна думала дакладна таксама, як вы. „Па-вашаму выходзіць, што вельмі проста даказаць народу, што ён не мае сваёй самабытнай мовы, калі ў розных месцах яго старонкі ёсць дзе-якія асобнасці ў вымаўленні? Выходзіць, па-вашаму, што французскі мужык не француз, бо ён гаворыць не так, як яго брат — француз з Парыжа?"

На канец хачу вам і „вампадобным" прысвяціць верш Арла „Сынам Беларусі", хаця вы не годныя, каб чытаць і слухаць беларускае слова, а людзі ў Гарадку павінны да вас адзывацца толькі па-польску.

*Часам мне жыць не пад сілу*
*прыходзіцца,*
*Часам смяртэльная думка зародзіцца,*
*Сэрца нудою шчыміць.*

*Як пагляджу, што вакол мяне дзеецца*
*Сіл няма, веры на жыцце надзеяцца,*
*Ажно не хочацца жыць.*

*Ўсё, што ўзрасціла старонка*
*любімая,*
*Ўсё, што магла даць, як матка*
*радзімая, —*
*Ўсё на сынкоў аддала.*

*Чым жа ж сынкі ёй за ўсё адгадзіліся?*
*Тым, што зусім ад яе адхіліліся,*
*Быццам не маць ім была!*

*Сэрца ад гневу маё разрываецца,*
*З вуснаў праклянцце усім вам*
*зрываецца,*
*Вам, Беларусі сыны!*

*Вы адракліся, забылі, пакінулі,*
*Вы, быццам юды, ўрагам яе кінулі,*
*Здраднікі вы, не сыны!*

*Ўсё, што магла, аддала вам, радзімая,*
*Быццам як матка для дзетак*
*любімая.*
*Ждала карысці, уцех!*

*Доўгу свайго вы прад ёю не споўнілі,*
*Грабіць — аграбілі, а не папоўнілі,*
*Чы ж вам не ўстыдна, не грэх?!*

Panie Mieleszko,
Bez szacunku.
**LEON TARASEWICZ**

## На якой мове (апрача польскай) размаўляюць людзі ў Гарадку і ў яго ваколіцах?

Усе факты сведчаць, што яны размаўлялі і размаўляюць па-беларуску. Першымі людзьмі, якія тут пасяліліся, былі людзі ўсходнеславянскай, старажытнабеларускай мовы. Галоўным крытэрыем нацыянальнасці з'яўляецца мова, якой карыстаюцца людзі ў штодзённым побыце і ў сям'і. З гэтага вынікае, што нашы продкі былі беларусамі.

Беларуская мова была роднай для Хадкевічаў, якія таксама пісалі па-беларуску і на гэтай нашай мове пакінулі па сабе дакументы. Хадкевічы пабудавалі ў Гарадку свой замак з праваслаўнай царквой. Шкада, што войны гэта ўсё знішчылі. Дзякуючы нашым продкам Гарадок набыў гістарычнае значэнне. Польская мова прыйшла на Гарадоцкую зямлю намнога пазней.

Належыцца пашана нашым продкам, нашым прадзедам, дзядам і бацькам, што яны, нягледзячы на ўсялякія гістарычныя завірухі, данеслі да нас беларускую мову. Дзякуючы ім, мы сёння ведаем, скуль мы тут узяліся і чаму размаўляем па-беларуску. Не вучылі ў школах па-беларуску, гэтай мовы вучыліся мы ў роднай хаце ад сваіх бацькоў, дзядоў. Хтосьці можа паставіць закід, што наша мова мае і польскія словы. Усё гэта праўда, толькі не трэба забываць, у якіх абставінах мы жылі і жывём. Паколькі мы ў польскай дзяржаве, разам з польскамоўнымі суседзямі, дык і праходзіць працэс супольнага пранікання моў. Такія працэсы адбываюцца не толькі ў нас, яны наглядаюцца ва ўсіх народаў, якія жывуць на пагранiччы. На гэтую тэму можна пісаць без канца. Усё-такі фундаментам нашай мовы, яе карэннямі з'яўляецца беларуская мова.

І так, як перад вякамі, жывуць тут людзі, для якіх беларуская мова ёсць роднай, хаця пакалечаная яна часам небеларускімі словамі.

Не трэба саромецца гэтай нашай мовы. Яна таксама добрая, як польская, літоўская, руская, англійская ці іншыя мовы.

Недалёка Гарадка, у Крынках, жыве Сакрат Яновіч, пісьменнік, які вырас на мове, якой мы тут гаворым, піша кніжкі пра тутэйшых людзей, пра нашу зямлю. Піша ён на беларускай, а часамі і на польскай мовах. Мы павінны ганарыцца, што маем свайго пісьменніка, якога кніжкі выдаюцца не толькі ў нашай краіне, Польшчы, але і ў Вялікабрытаніі, Аўстрыі, Нарвегіі, Італіі, Амерыцы і іншых краінах. Чытайма, калі ласка, ягоныя кніжкі, пазнавайма гісторыю нашай зямлі і не забывайма мовы нашых дзядоў і бацькоў.

**Галіна Матэйчук**

P.S. Panie Dariuszu Mieleszko, bądźmy bardziej tolerancyjni, szczególnie w dzisiejszych niełatwych czasach, ponieważ jest to bardzo potrzebne nam wszystkim. Od wieków żyjemy tu razem, Polacy i Białorusini, żyjemy zgodnie, rodzinnie i w przyjaźni, nawzajem sobie pomagamy w razie potrzeby. I życzmy sobie, aby było tak zawsze, niezależnie od języka, jakim mówimy, jaką wyznajemy wiarę, prawosławną czy katolicką, i do jakiej narodowości należymy. Jesteśmy obywatelami polskimi i ojczyzną naszą jest Polska, ku chwale której mieszkańcy Gródka i okolic pracowali i pracują i za wolność, której ci mówiący po polsku i po białorusku przelewali krew i ginęli zarówno na Wschodzie jak i na Zachodzie.

Panie Dariuszu Mieleszko, bądźmy dumni, a niektórzy już są, i to niezależnie w jakim języku mówimy, z naszego rodaka, światowej sławy artysty-malarza pana Leona Tarasewicza. Ten niezwykły w pozytywnym znaczenie tego słowa człowiek urodził się na naszej gródeckiej ziemi i mieszka wśród nas i swoją twórczością, uznaną przez bardzo wielu, rozsławia nasz Gródek i okolice nie tylko w naszym kraju Polsce, ale i na całym świecie.

Mam nadzieję, że moje słowa nie uraziły Pańskiej dumy, Panie Dariuszu Mieleszko, jako prawosławnego Polaka.

**Halina Matejczuk**

## Паважаны Спадар Мялешка!

У адказ на Вашае пісьмо ў „Ніву" (н-р 2 ад 8.01.1995 г.) хачу аднесціся да некалькіх Вашых недакладных выказванняў.

Адносна беларускай мовы Вы сцвярджаеце, што ў Гарадоцкай гміне гавораць „па-просту". Можаце яе і так называць, але гэта не мяняе факту, што гэта дыялект беларускай мовы. Як і ў польскай, так і ў беларускай мове шмат гаворак.

Вы таксама недакладны адносна майго выказвання ў артыкуле „Справа Мялешкі", памешчаным у „Ніве" ад 23.10.1994 г. Пра беларускія гістарычныя асобы, звязаныя з Гарадоцкай зямлёй, выказаўся нехта іншы. А загады, хто і якім чынам мае нешта рабіць, Вы павінны мусіць захаваць для сябе.

Вы дакараеце Беларускае дэмакратычнае аб'яднанне ў тым, што яно „ostro zwalczało" Выбарчы камітэт „Разам". Дык дзе ж факты на тое? Паводле Вас, асноўным прыкладам „ostrego zwalczania" Выбарчага камітэта „Разам" Беларускім дэмакратычным аб'яднаннем з'яўляецца памылковая інфармацыя пра вынікі выбараў у Раду Гміны Гарадок, памешчаная ў „Przeglądzie Prawosławnym" н-р 7 ад 1994 г.

Спадар Мялешка! Гэтая занатоўка падпісана (тв). Гэта зусім не напамінае абрэвіятуры БДА (ні BZD на польскай мове). Я не ведаю, хто гэта напісаў і чаму памыліўся.

Тое самае тычыцца артыкула „Справа Мялешкі". Вы ўнушаеце, што за ўзнікненне гэтага артыкула адказнасць нясе таксама БДА. Не, спадар Мялешка! Гэта артыкул спадарыні рэдактар Ганны Кандрацюк. Вы ж першыя пачалі дыскусію на тэму нацыянальнасцей, якія насяляюць Гарадоцкую гміну. „Праблема", якая ўзнікла пасля некалькіх апртыкулаў, тычыцца толькі Вашай асобы, але Вы беспадстаўна хочаце яе пашырыць на ўвесь Выбарчы камітэт „Разам". Я сам не бачу тых праблем, пра якія Вы выказваецеся.

У час апошняй перадвыбарчай кампаніі ў выбарчую камісію не паступіла ніякая скарга ВК „Разам" на Беларускі выбарчы камітэт „БДА". Беларускі выбарчы камітэт не апублікаваў нічога непрыхільнага ў бок ВК „Разам". Я лічу таксама, што адносіны паміж раднымі гэтага склікання з абодвух выбарчых камітэтаў даволі карэктныя. Для большасці радных з ВК „Разам" маю вялікую пашану за іх паводзіны на сесіях Рады і пасяджэннях Управы Гміны. Спадзяюся, што супольна справімся са шматлікімі праблемамі нашай гміны.

**Старшыня Тэрытарыяльнай Рады БДА ў Гарадку Аляксандр Карпюк**

# Ікона Божай Маці „Суцяшы мае смуткі”

Сэнс слоў, якія адносяцца да назвы гэтай іконы, паясняюць нам складзеныя для яе ўшанавання царкоўныя песні. У трапары спяваецца: „Утоли болезни многовоздыхающия души моея, Утолившая всяку слезу от лица земли...”, а ў кандаку свята: „... радуйся, радостие наша: избави нас от всякого зла и утоли наша печали”. Апошнія словы кандака з’яўляюцца адначасна прыпевам акафіста. У малітве да Багародзіцы, складзенай для ўшанавання іконы, змешчаны такія вось словы: „... и молим: угаси ми пламень греховный и ороси покоянием, иссохшее сердце мое от мрака греховного очисти..., Пречистая, отими бремя грехов моих, Преблагодатная, и утоли печали моя, сокрушающия сердце. Ты бо еси возведение роду человеческому и в печалех скорая Утешительница...”

З вышэйпрыведзеных слоў вынікае, што назва „Суцяшы мае смуткі” з’яўляецца малітвай да Багародзіцы аб выратаванні ад цялесных і духовых боляў. Ніхто не можа сказаць, што ў яго жыцці не было цяжкіх хвілін і што не шукаў ён тады дапамогі і суцяшэння! Сапраўдны хрысціянін у такія часіны шукае паратунку ў малітве. І сапраўды атрымоўвае яго, але не ад людзей, таксама слабых і бяссільных як ён сам, а толькі ад Самога Госпада праз пасрэдніцтва Прасвятой Багамаці, Заступніцу роду хрысціянскага.

Ікона была прынесена ў Маскву ў 1640 годзе і знаходзілася ў царкве Свяціцеля Мікалая ў Пупышах на Замаскварэччы. З іконай звязаны былі многія цудоўныя здарэнні і выздараўленні, але пісьмовыя сведчанні аб іх прапалі ў час пажару царквы ў 1771 годзе. Аднак дайшла да нас гісторыя адкрыцця цудатворнай сілы іконы „Суцяшы мае смуткі”, якое здарылася ў II палове XVII стагоддзя. Адна багатая ўдава, якая пражывала далёка за Масквой, цяжка і доўга хварэла. Працяглая хвароба прыкавала яе да пасцелі. І вось у такіх цяжкіх хвілінах з’явілася надзея на выздараўленне. У сне пачула яна такі голас: „Загадай, каб завезлі цябе ў Маскву, у царкву Святога Мікалая, у якой знаходзіцца Ікона Божай Маці „Суцяшы мае смуткі”. Маліся перад ёю і атрымаеш выздараўленне”. Пры гэтых словах з’явілася і сама ікона. Калі хворая прачнулася, пра ўсё расказала сваім родным, якія неўзабаве павезлі яе ў Маскву. Аднак у названай царкве такой іконы не было. Свяшчэннік, якому расказалі сон хворай, прынёс са званіцы некалькі старых ікон, сярод якіх была тая з надпісам „Суцяшы мае смуткі”. Хворая ўсклікнула толькі: „Яна! Яна!” і сама перахрысцілася, хаця была так слабая, што ўжо не гаварыла і не варушыла рукамі і нагамі, але цвёрда верыла ў выратаванне ад хваробы. Калі адслужылі малебен і хворая дакранулася да іконы, жанчына без нічыёй дапамогі паднялася на ногі і сама выйшла з царквы. У хату вярнулася яна здаровай і, несумненна, была гэта ласка Прасвятой Багародзіцы.




На іконе Багародзіца левую руку прыклала да сваёй галавы, быццам лёгка падтрымоўваючы яе, а правай — прытрымоўвае ногі Багамладзенца. Агульны выгляд Божай Маці быццам паказвае, што яна прыслухоўваецца да найстойлівых малітваў і слёз усіх, хто прыбягае да яе ў патрэбе. На іконе Збавіцель трымае перад Сабою рулон з надпісам: „Суд праведен судите, милость и щедроты творите кийждо ко искреннему своему; вдовицу и сиру не насильствуйте и злобу брату своему в сердце не творите”.

Цудоўнае выздараўленне ўдавы ў Маскве здарылася 25 студзеня па старому стылю (7 лютага) і з гэтай пары ў той дзень ушаноўваецца памяць Іконы Божай Маці „Суцяшы мае смуткі”.

С. Н.




BABOSOW Jewgienij: Socjodynamika religijności w postkomunistycznej Białorusi. *Nomos* 1993, nr 3/4, s. 123-127.

BUJWOŁ Waleryj: Młode malarstwo białoruskie. Tł. z ros. Leszek Mikrut. *Kamena* 1993, nr 1/2, s. 25-27, il.

CIEŚLIŃSKA Barbara: Przyczyny i skutki wyjazdów zagranicznych Polaków (w świetle badania ankietowego mieszkańców północno-wschodniej Polski). *Pogranicze* 1992, t. 2, s. 153-170, tab.

DOKUMENTY KGB (dotyczące partyzantki polskiej i sowieckiej w latach 1941-1943 na Białorusi). Oprac. Halina Martinowa. Tł. z ros. Jarosław Wołkonowski. *Zeszyty Historyczne* 1994, z. 108, s. 185-200.

Eberhardt Piotr: Polska granica wschodnia 1939-1945. Warszawa 1993; Rec. KUSIŃSKI Witold, *Przegląd Geograficzny* 1994, z. 1/2, s. 203-205.

JASIEWICZ Krzysztof: Obywatele polscy aresztowani na terytorium tzw. Zachodniej Białorusi w latach 1939-1941 w świetle dokumentacji NKWD/KGB. *Kwartalnik Historyczny* 1994, nr 1, s. 105-134, tab.

JANUSZ Grzegorz: Mniejszości narodowe w Polsce. *Kamena* 1993, nr 1/2, s. 37-40, il.

KAZANECKI Paweł: Kronika białoruska. *Więź* 1994, nr 6, s. 147-153.

KRUPA Katarzyna: Polityczne związki Giedyminowiczów z Nowogrodem Wielkim w latach 1430-1471. *Przegląd Historyczny* 1993, z. 3, s. 289-306, rys.

KUPAŁA Janka: A kto tam idzie? (w). Tł. Kazimierz Andrzej Jaworski. *Kamena* 1993, nr 3/4, s. 13.

MALDZIS Adam: Z Azją czy z Europą? Białoruski punkt widzenia na wspólne dziedzictwo kulturowe. *Kamena* 1993, nr 3/4, s. 14-18, il.

MATYKOWSKI Roman, TOBOLSKA Anna: Mniejszości narodowe w Polsce w świetle wyników wyborów do Sejmu z dnia 27 października 1991 roku. *Sprawy Narodowościowe* 1994, t. 3, z. 1, s. 131-143, mapy, rys, tab.

MERING Krzysztof: Cena biznesu (Handel przygraniczny polsko-białoruski). *Życie Gospodarcze* 1994, nr 41, s.28-29.

MIK Cezary: Metody regulacji kwestii mniejszościowej w prawie międzynarodowym i w prawie polskim. *Sprawy Narodowościowe* 1994, t. 3, z. 1, s. 25-37.

SADOWSKI Andrzej: Skład wyznaniowy i narodowościowy mieszkańców północno-wschodniej Polski (obszaru "Zielone Płuca Polski"). *Pogranicze* 1992, t. 2, s. 5-30, il., tab.

SKARADZIŃSKI Bohdan: Nad Niemnem, Berezyną i Górnym Dnieprem. Więź 1994, nr 5, s. 178-181.

Turonek Jerzy: Białoruś pod okupacją niemiecką. Warszawa 1993; Rec. KUSIŃSKI Witold, *Polityka Wschodnią* 1994, nr 1, s. 239-242.

ZIELIŃSKA Anna: Prestiż i funkcje języka polskiego w okolicach Baranowicz na Białorusi. *Etnografia Polska* 1993, t. 37, z. 2, s. 19-28. Sum.

P. C.

# Рыхтуючыся да Вялікага Посту

**5.02 — Нядзеля аб Закхеі.**
Быццам першая ластаўка напамінае яна, што набліжаецца перыяд Вялікага Посту. Прытча аб Закхеі апавядае, што на пачатку дарогі, якая павінна давесці да пакаяння, павінна быць жаданне ўвайсці на яе. Сімвалам гэтага было жаданне мытніка Закхеі пабачыць Хрыста. Дасягнуў ён гэтага перадольваючы свае фізічныя недасканаласці.

**12.02 — Нядзеля аб Мытніку і Фарысеі**
Пачынае яна Посную Трыёдзь і сапраўдны перыяд падрыхтоўкі да Вялікага Посту. Прытча гэтая паказвае, што з пакаяннем звязана перш за ўсё пакора, свядомасць сваіх грахоў і шчырая просьба аб іх дараванні, што перашкодай у ачышчэнні ад грахоў і галоўнай іх прычынай бывае пыха. У гэты тыдзень (усяядная сядміца) няма посту ў сераду і пятніцу.

**19.02 — Нядзеля аб Блудным Сыне.**
На прыкладзе гэтай прытчы Царква заклікае нас і павучае, каб мы шчыра прызнаваліся ў сваіх грахах і прасілі Бога аб іх дараванні. Ён, як міласэрны Бацька, прыме кожнага грэшніка, які прыходзіць да Яго ў раскаянні.

**25.02 — Бацькоўская мясапусная субота**
Субота перад Мясапуснай нядзеляй, падчас якой успамінаем Страшны Суд. Молімся пра ўсіх праваслаўных хрысціян, асабліва пра тых, якія загінулі трагічна, каб і яны апынуліся на правым баку Справядлівага Суддзі.

**26.02 — Нядзеля мясапусная — Аб Страшным Судзе.**
Царква нагадвае нам аб будучым Судзе, аб тым, што кожнаму з нас прыйдзецца адказваць за свае справы, а заадно прызывае да пакаяння і добрых учынкаў. У гэты дзень канчаецца спажыванне мяса.

Наступны тыдзень называецца Сырным або Масленіцай. Гэта — Усяядная (сплошная) сядміца, падчас якой можна есці ўсё акрамя мяса, чарговы этап падрыхтоўкі Царквою нашай душы і цела да Вялікага Посту.

**4.03 — Сырная субота**
Памінаем усіх прападобных айцоў, у подзвігу праслаўленых.

**5.03 — Нядзеля сырапусная — Прощенное Воскресение.**
У гэты дзень успамінаецца падзея выгнання нашых Прабацькоў Адама і Евы з Раю. Царква заадно прызывае нас, каб на парозе Вялікага Посту, перад тым, як пачнем пасціць, прасіць у Бога даравання нашых грахоў і выбачыць сабе ўзаемна ўсе віны.

Гэта апошні дзень, калі можна яшчэ есці малочныя прадукты.

**6.03 — Пачатак Вялікага Посту.**
Думаю, што ў чарговы раз варта прыгадаць, што ў апошні тыдзень перад Вялікім Постам усялікія гульні недапушчальныя праваслаўнаму хрысціяніну з увагі на характар багаслужбаў, звязаных з гэтым перыядам. Загавіны (запусты) трэба арганізаваць перад Мясапуснай нядзеляй.

Апошні дзень, асабліва вечар, трэба правесці ў малітве, спакою і ўстрыманасці.

С.Н.

# ІКОНЫ

### Частка XX

Сёння ўжо апошні раз прыводжу выказванні маёй маці аб іконах. У гэтых прызнаннях дасканала праяўляюцца не толькі погляды маёй маці, але, мабыць, і большасці беларускіх вясковых жанчын. І таму бачу ў іх некаторыя сацыялагічныя і грамадскія рысы, характэрныя, калі не для большасці, дык для значнай колькасці беларусаў не толькі ў Польшчы, але, мабыць, і ў Рэспубліцы Беларусь, і ва ўсім свеце.

„Ну, я ужэ, здаецца, даволі табе нагаварыла пра Пячэрскую лаўру, то сегодне яшчэ крыху скажу толькі пра іконы, бо ты ж казаў, што гэто для цябе найважнейшэ. Але як тут возьмеш і аддзеліш гэты цэлы іконы ад нашай рэлігіі? Каб ні было нашаго праваслаўя, то сіхібо ні было б іконаў. Я то ні ведаю чы ў усіх рэлігіях, бо іхжэ много, е іконы, чы можэ ні ў усіх?

То, значыцца, я скажу так: без іконаў то ні вядомо як было б нам жыці. От, бачыш, я вас выгадавала пяцёро: цябе, Любу, Маньку, Насцю і Надзю. І вядомо, што каждэ з вас хварэло і то ні адзін раз. Калісь, перад вайною, то ніхто хворы да дохтара ні ехаў, бо дохтару то трэба было много плаціці. А сколь было узяці тых грошэй? То ні тое, што цяпер, пры гэтой дэмакраціі. Каждаго бесплатно лечат і пачці што нікому ні дают памерці. Калісь то людзі, а найбольш то дзеці, уміралі як мухі осенню. Ну, то як я вас лечыла, калі вы хварэлі? Вядомо, што крыху то і загаворамі, і разным зеллем, але найчасцей то малітваю і іконаю. Бывало як каторэ толькі з вас захварэе, то я зараз згавару малітву, папрашу Бога каб памог, а кроме гэтаго то зніму гэту Пячэрскую ікону, прылажу да галоўкі, патрымаю так крыху і зноў ікону на месца павешу. І бачыш ты сам, ні аднэ дзіця у нас ні умерло, усе выздаравелі і выжылі. Ну, то значыцца, што ікона можа быці цудатворна. Ну, бо ты толькі сам падумай. Мне здаецца так, што калі чалавек паглядзіт на ікону і яму робіцца на сэрцы лепш. Калі памоліцца да іконы і яму робіцца весялей, то значыт, што ікона цудатворна. І яно вядомо, што калі чалавек нават і ні глядзіт у бок іконы і ніколі перад ею лоба ні перажагнае, то для яго гэта ікона ні цудатворна. Як яна ему будзе памагаці, калі ён гэтаго ад яе ні жджэ і яе пра нішто ні просіт. Я то так на гэто дзело гляджу, а як іншы, то я гэтаго ні знаю.

Што я яшчэ магла б сказаці? Я тут слухала, як з табою гаварыў бацько. Ну, то ён табе сказаў, каб ты ні звязваўся з нідобрымі людзьмі і каб уцікаў ад тых, хто на цябе нападае. Мне то здаецца так, што ўсе гэты напасці адных ад другіх то з завісці бяруцца. То ж нават тут у вёсцы е такія людзі, што другім завідуют і таго, што ў іх лепша хата, і таго, што ў кагось лепшы ўражай, і што ў кагось вядзецца жывіна, і што свіня ўсе парасята выгадавала. Усяго завідуют і том і нападают, абгаварывают і ачэрняют. То напэўно тое самэ і ў горадзі. Там напэўно завідуют і кварціры, і пасады, і грошай, і славы. Усяго завідуют. Ну то калі б хтось табе там чагось завідаваў і нападаў на цябе, то ты адыдзіся ад такіх людзей і з імі ні вайой. Бог усё гэто бачыт і такіх людзей напэўно пакарае. Калі ні зробіт гэтаго за іх жыцця, то напэўно пакарае пасля смерці. І больш нічого ні трэбо. Німа такого справядліваго судзі, як Бог. Ад яго ні ўцячэ ніхто і ніхто Бога ні ашукае, чалавека можно ашукаці, але Бога то ніяк ні можно падмануці, ён усё бачыт і ўсё чуе днём і ноччу і заўшэ запісвае ў памяці і нашэ дабро, і нашэ зло.

Ну, а іконы то вядомо, што яны е таму, што е Бог. Калі б ні было на свеці Бога, Божае Мацеры і разных святых, то ні было б на свеці таксамо іконаў, бо нашто ж яны былі б патрэбны? Гэто Бог так сказаў, каб былі і цэрквы, і манастыры, і іконы, і райскі варота, і аўтары, і крыжы. І ўсё гэто робіцца для таго, каб праславіці Бога і добраго чалавека. Калі б, ні дай Бог, ні было Бога, то людзі былі б усе адно як дзікі зверы і на гэтым свеці то ні можно было б жыці. Вядомо, што і так много на зямлі зла, але ўсё гэто зло з таго, што людзі забывают пра Бога. А парадачны людзі то гаворат просто: без Бога ні да парога. От і ўсё, што я хацела тут табе па-бабску сказаці”.

**Алесь Барскі**

# КАР'ЕРЫ

*(заканчэнне; пачатак у 2 н-ры)*

Больш-менш прадзядзькавым равеснікам быў другі наш слаўны аднавясковец — Ігнат Нікалаюк. Ён таксама даслужыўся да палкоўніка і дваранiна, але кар'ера яго была яшчэ больш бліскучай і рамантычнай, чым кар'ера Парфенція Амельянюка.

Сям'я Нікалаюкоў была вялікай і беднай. Зямлі ў іх было два трацякі, а дзяцей многа. Адным з іх і быў Ігнат. Празывалі гэтую сям'ю ў вёсцы Губарамі, бо бацька Ігната, таксама Ігнат, меў нейкія нетыповыя, надта вялікія губы. Прайшло з таго часу ўжо некалькі пакаленняў, але і цяпер нашчадкаў гэтай сям'і так у вёсцы называюць. Губары былі ўпартыя, настойлівыя, баявыя. Нават паявілася ў вёсцы пагаворка: „упарты, як Губар".

Дарога ў дарослaсць Ігната нічым асаблівым не рознілася ад дарогі іншых вясковых хлапчукоў. З найменшых гадоў традыцыйная кар'ера пастушка і цяжкая праца, праца і яшчэ раз праца. Спачатку пасвіў гусей, потым свіней, авечак і ўсё іншае рагаста-капытастае стварэнне. Да слёз нудны і нялёгкі гэта занятак. Тым больш, што і сялянскай жывёліне было нялёгка, бо было цесна і галодна. Таму і пхалася яна ў шкоду, дзе толькі магла, а за гэта былі ўжо лаянкі і нават пабоі. Жывёліна, як і людзі, была рознай: як сімпатычная, мілая, нахітрая, культурная, інтэлігентная, так хітрая, бескультурная, нават хамская. Я, хаця і рэдка пасвіў, бо толькі сваю чаргу адпасаў, але так бывала — як сказалі б грубіяны — укурвяць, што гатоў на кусочкі разарваць такую быдляціну. Але папробуй дагані яе, калі ў цябе дзве нагі, а ў яе чатыры, і яна дасканала ведае аб гэтым. Дык і не дзіва, што пастушок Ігнат аставіў родную хату, сям'ю, вёску і пайшоў у белы свет шукаць лепшай долі. І прапаў без весткі...

Бацькі нядоўга сумавалі па страце. „Бог даў і Бог узяў", — падобна, такое было заключэнне бацькі. Тым болей, што яшчэ нямала заставалася нахлебнікаў у хаце.

Манатонна мінаў дзень за днём, месяц за месяцам, год за годам. Усе ўжо забыліся пра Нікалаюкову страту. І раптам пасля святочнай царкоўнай службы і пропаведзі нашага бацюшкі Васіля Кастыцэвіча, папрасіў ён Нікалаюка Ігната з вёскі Піліпкі зайсці да яго на плябанію пасля службы.

(Некалькі пакаленняў Кастыцэвічаў былі святарамі пасынкоўскага прыхода і можа смела ганарыцца імі наш прыход, бо Кастыцэвічы — гэта вядомы і заслужаны для нашай нацыі і праваслаўя род. Гэта яны прычыніліся да ліквідацыі непапулярнай у нас царкоўнай уніі ў першай палове XIX ст. і адраджэння беларускага школьніцтва пасля Вялікай Айчыннай вайны. Але не менш знаны быў і наш прыход, бо быў вялікі і багаты. Апрача дзевяці вёсак: Пасынкі, Піліпкі, Сакі, Кнаразы, Зубава, Агароднікі, Локніца, Мякішы, Трашчоткі, царква мела багаты надзел добрай зямлі. Быў гэта проста зямельны фальварак, які бясплатна апрацоўвалі сваім інвентаром прыхаджане).

— Чого ж то батюшка хочут од мэнэ? — здзівіўся стары Ігнат.

На плябаніі адбыўся такі дыялог:

— Хочешь увидеть своего сына, Николаюк?

Нікалаюк рассмяяўся на такую недарэчную прапанову бацюшкі.

— Я ж іх, батюшка, штодэнь бачу!

— Нет, не их, Николаюк, а Игната.

— Ігнат мой нэ жывэ, батюшка.

Бацюшка адкрыў каляндар ці нейкі журнал, дзе былі прадстаўлены героі руска-японскай вайны 1904—1905 гадоў. Сярод іх і быў партрэт і біяграфія нашага земляка Ігната Нікалаюка.

Аказваецца, пакінуўшы родны дом, ён нейкім спосабам дабраўся аж у Рыгу. Там уступіў у сіроцкія батальёны, дзе і атрымаў першую вайсковую шліфоўку. Калі распачалася руска-японская вайна, ахвотнікам пайшоў на фронт. Там зарэкамендаваў сябе як надзвычай смелага і ўмелага воіна, за што і пасыпаліся ўзнагароды і павышэнні. З фронту пасылалі яго ў адпаведныя вайсковыя школы, адкуль ён зноў ахвотнікам пёр на фронт. Ваяваў з самураямі, а потым з кайзераўскай Германіяй і ўсюды вайсковая фартуна спрыяла яму.

Даслужыўся да палкоўніка, высокаблагароддзя і атрымаў усе магчымыя салдацкія і афіцэрскія ўзнагароды, пачынаючы ад усіх ступеней Георгіеўскага крыжа, а канчаючы на асабістай залатой зброі. Вось вам і Нікалаюк.

Калі першы раз прыехаў дадому, народ валам валіў зірнуць на яго. Мой дзед Амяльян таксама папёр паглядзець на колішняга сябрука, а цяпераншняе геройскае афіцэрскае высокаблагароддзе. Высокаблагароддзе, а як жа, заўважыла дзеда пад акном і адразу за стол, дзе амаль усе мужчынскае вёска ўжо сядзела і дзе шампанскае дыканькі ракой цяклі, а смачныя закускі плылі проста касякамі...

Думаю, аднак, што не смакавітымі якасцямі нябачаных дасюль спіртных напіткаў быў пакораны наш народ, а тым, што былі яны дармовыя і ўволю. Такія вартасці заўсёды цаніліся і цэняцца ў нас.

І спілася ўся вёска напавал. Мой дзед таксама. На другі дзень на працу не пайшоў, толькі лячыўся з перапою.

Не вытрымаў і бюджэт героя. Калі трэба было вяртацца ў сваю часць, не меў ужо за што і пазычыў трыццаць рублёў у свайго брата на дарогу.

Нямала ўжо вады сплыло ў нашай рэчцы Локніцы з таго часу, але як нейкую цікавую легенду расказваюць дасюль пра незвычайную кар'еру Ігната Нікалаюка і яго гасціну.

Пазнейшыя вясковыя кар'ерысты падобнага ўжо не паўтарылі, а мела вёска іх нямала. Былі і ёсць у нас маёры і палкоўнікі Войска Польскага. Былі і прафесіянальныя змагары за народныя ідэалы — гмінныя і нават павятовыя сакратары партыі. А ці накармілі і напаілі яны свой народ?! Ні кілішка не паставілі, нават марожанага нікому не купілі...

Як на нейкае дзіва глядзелі на Ігната і прыхаджане, калі ў святочны дзень пайшоў ён з хлопцамі ў царкву. З усіх бакоў яго акружалі, цэлымі натоўпамі за ім хадзілі.

Заўважыў і бацюшка яго і, канешне, рашыў, што надаецца ён на мужа для нейкай пападзянкі. Лёс выпаў на старэйшую дачку чыжоўскага бацюшкі, якога называлі ці празывалі Кутасом. Так і не выпусцілі ўжо са сваіх рук героя.

Вяселле адбывалася ў Чыжах. Вясельныя сталы стаялі на двары ў садзе. Гасцей было многа, а назіральнікаў яшчэ больш. У дружыне маладога быў і мой прадзядзька Парфенцій і іншыя аднавяскоўцы.

Свайго бацьку на вяселле Ігнат не запрасіў, відаць, саромеўся за старога. Даў яму тры рублі і сказаў: „Сделай себе свадьбу, отец, дома". Бацька грошы ўзяў, але ў Чыжах паявіўся, бо: „Як жа ж не быць бацьку на вяселлі сына?" — сказаў. Ніхто аднак не запрасіў яго за стол, мо не пазналі, і пакрыўджаны стары Ігнат пяшком прыйшоў дадому.

У той час прыступаў у Чыжах быў нейкі Дзямід з нашай вёскі. Калі ён паказаў Ігната чыжавянам і сказаў, што гэта сват іх бацюшкі, доўга і весела смяяліся яны. Значыць, лічылі мезальянсам такое сватаўство. Так не ўмелі і, на жаль, не ўмеем мы цаніць сябе...

Прадзядзька Парфенцій асуджаў пазней паступак Ігната з бацькам. Гаварыў, што ён сваіх бацькоў у кожным выпадку пасадзіў бы на самым ганаровым месцы. На жаль, да такой нагоды ў Парфенція не дайшло. Спачатку, і даволі рана, памёр яго бацька Васіль, потым маці, а ён сам, як ужо было сказана, ніколі не стаў пад вянец...

Кастрычніцкай рэвалюцыі і яе ідэалаў нашыя высокія благароддзі не прынялі, былі вялікімі праціўнікамі яе. І патаптала-знішчыла яна іх: аднаго ў Вільні, а другога дзесьці ў Азіі. Калі не ўспеў Ігнат Нікалаюк у баі загінуць, то напэўна расстралялі яго потым.

Ці астаўся ў жывых хтосьці з сям'і яго, невядома. Калі ж астаўся, павінны пражываць дзесьці ў граніцах былога Савецкага Саюза.

У шасцідзесятых гадах нашчадкі польскіх Нікалаюкоў знайшлі нейкага савецкага Нікалаюка. Ён мог быць сынам або ўнукам Ігната, але не прызнаўся да сваяцтва з Ігнатам. Магчыма было яно і так, а магчыма і не. Гэта ж быў яшчэ страшэнна дзікі час і было небяспечна мець сярод сваіх продкаў царскага палкоўніка і дваранiна.

Вось менавіта таму многія савецкія грамадзяне свядома адракаліся прошлага свайго і продкаў сваіх. І пераважна тады, калі гэтыя продкі былі слаўныя і нябедныя ў іх. Нейкая недарэчнасць, дурнота, парадокс, адным словам.

**Васіль Сакоўскі**

# Канферэнцыя меншасцей у Ольштыне

У адну снежаньскую пятніцу да мяне на працу зайшла Зоя Ярашук і запрапанавала мне ўдзел у канферэнцыі, арганізаванай Грамадска-культурным таварыствам „Pojezierze". Меў я прадставіць жыццё беларусаў у Польшчы.

Канферэнцыя праходзіла пад лозунгам „Супрацоўніцтва з грамадска-культурнымі арганізацыямі нацыянальных меншасцей на Варміі і Мазурах". Да яе арганізацыі найбольш руку прыклалі старшыня таварыства Ірэна Маджэеўска і сакратар Ігнат Дэмбскі, абое родам з Беларусі. Пра нямецкую меншасць даклад прачытала доктар Бажэна Дамагала, пра ўкраінскую — доктар Бажэна Беда. Я расказаў пра беларускія справы на Беласточчыне — пра пабудову Беларускага музея і Кастуся Майсеню, пра нашых „белавежскіх" пісьменнікаў, калектыў „Васілёчкі" (які ў будучыні марым запрасіць у Ольштын).

У дыскусіі была гаворка пра талерантнасць у адносінах паміж народамі і пра людзей, якія адарваліся ад сваіх каранёў, ад сваёй „малой айчыны". Доктар І. Маджэеўска сказала, што добра было б, каб наша арганізацыя супрацоўнічала з іхняй. Вядома, запрашэнне было з ахвотай прынята.

**Старшыня**
**Грамадска-культурнага**
**беларускага аб'яднання**
**ў Ольштыне**
**Андрэй Гаўрылюк**

P.S. У найбліжэйшы час плануем ужо зрабіць выстаўку графік Барыслава Рудкоўскага ў доме „Паезежа". Будзем запрашаць творцаў з Беларусі і Беласточчыны.

# Пацалунак для каня

Нататкі пісьменніка могуць быць, вядома, самыя розныя па адэкватнасці да халернай рэчаіснасці. Жанр „З дзённікаў Сакрата Яновіча", запісак пазначаных датамі, схіляе чытачоў да ўспрымання іх як нейкага дакумента. І добра. Аднак жа... аўтара заносіць часам у фантазёрства.

Пад датай 24 лютага 1991 года (гл. „Ніва", 1995, н-р 4) Сакрат Яновіч занатаваў сабе, што ён „дэсігнаваў Яна" на старшыню літаратурнага аб'яднання „Белавежа".

Мілы панібраце! Не было такога. У 1989 быў я абраны. У тайным галасаванні. З трох кандыдатур, пададзеных прысутнымі і прытомнымі „белавежцамі". Архіў аж успацеў...

За добрую інтэнцыю „дэсігнаваць Яна", аднак, ветліва дзякую.

Пад той датай у тваім, Сакраце, „Дзённіку", наколькі я ведаю яго наперад, было запісана, што не Чыквіна ты дэсігнаваў, але Сідара. І не дэсігнаваў, а трошкі аблаяў. А фактычна не аблаяў, толькі расцалаваў ягонага каня ў падзяцы, што нарэшце гарод табе ўзараў, а не таго аляпаватага халяву — Сідара, які адно чагось падбегам бегаў за плугам.

Будзь дакладнейшы ў рэверансах з вялікай і малой паняй-гісторыяй. Усё-такі людкове „Ніву" яшчэ чытаюць, хоць ад тых ім пухлякі пад вачыма растуць, усё большыя.

**Наракайла-на-Сакратайла**

P.S. Дакукаля міне па роху ды па доху?!

# Распуцін у спадніцы

Прачытаўшы вялікі нарыс Міколы Ваўранюка п.з. „Чалавек родзіцца з дарам" („Ніва" н-р 1 ад 1 студзеня г.г.) спачатку я гучна рассмяяўся, а пасля прызадумаўся: а ці мы, беларусы, дурнейшыя ад рускіх ці палякаў? Яны то маюць сваіх цудатворцаў, напр. Кашпіроўскага. Праўда, слава яго прыгасла, бо ніводнага чалавека ён не вылечыў, але гэта пэўна таму, што ён бязбожнік. Калі на адным з яго сеансаў нехта запрапанаваў яму, каб перахрысціўся, ён пачаў трэсціся быццам ад ліхаманкі. А вось наша паважаная Ганна Бандарук з Руткі, наадварот чым Кашпіроўскі, сваё лячэнне пачынае з малітвы — праўда, дзіўнай, бо ў ёй і пра сікуны, і пра прыкуны. Відаць, Бога не гневаюць нецэнзурныя словы і ў лячэнні такім памагае. Ганна яшчэ і тым розніцца ад Кашпіроўскага, што яна неадукаваная сялянка а ён — лекар. Да яе, аднак, прыязджаюць лячыцца з далёкіх мясцін і лекары. Бо яна — знахар. Параўнаць яе можна з другім знахарам — Грышкам Распуціным. Ён, падобна як Ганна, быў неадукаваным сібірскім мужыком. Ды як далёка заехаў! У царскі палац у Пецярбургу, дзе лячыў Аляксея, наследніка царскага трона. І, відаць, тое яго лячэнне крыху памагала калі стаў любімцам царскай пары. Ганна мае канфлікты з бацюшкамі; Распуцін з імі, і то з вышэйшымі — епіскапамі, таксама не ладзіўся. Аднойчы тры здаравяцкія епіскапы далі яму, таксама дужаму як конь, такую лупцоўку, што аж вымушаны быў перад імі прысягнуць, што ўжо больш у царкоўныя справы мяшацца не будзе. Але ў хуткім часе ўсе тры яны былі пазбаўлены сану, а адзін то нават уцёк у Швецыю. Добра было б, каб і Ганнай пацікавіліся ў сталіцы. Можа яна падлячыла б духоўна некаторых нашых міністраў для большага толку і парадку. А можа нават самога прэзідэнтавага сына вылечыла б ад яснай памрочнасці. Хаця ў самой Ганны ёсць родны брат, які гэтай самай немаччу хварэе, аднак ён, відаць, лячыцца ў сястры не мае ахвоты. Ёсць між Ганнай і Грышкам адна розніца: яна набожная — ёй сняцца прарочыя сны, у якіх таямнічы голас падказвае, дзе трэба паставіць царкву. Пасля яна моцна ў гэтую справу ангажуецца і шмат чаго ўжо зрабіла. Грышка ж Распуцін быў страшным распуснікам — якія толькі дамы з вышэйшых сфераў праз яго рукі не праходзілі. Аднойчы нават групка жанчын хацела яго прыманіць і вылегчаць; доўгія іх языкі не дазволілі здзейсніць гэтае. Яго разбэшчанасці спыніліся ў канцы 1916 года: вялікі князь Юсупаў са сваім паплечнікам забіў яго.

**Адважны**

ПАРНАСік
ЧЫТАЛЬНІЦКАЯ ЛІТСУПОЛКА НА НЕГАРАНТАВАНЫХ ПАЯХ

## Гарэлка

Яго скарб — гарэлка.
П'е яе без меркі
Пры кожнай нагодзе,
У дарозе, прыгодзе...

У яе ўцягнуўся,
Ад Бога адвярнуўся.
Бог яму — гарэліца,
А ў галаве мяцеліца.

Мае залатыя рукі.
А навошта ісці на мукі?
Ідзе ў кампанію п'яніц,
А пасля ўсё маніць.

У сям'і ідзе не ў адно —
Ён коціцца на дно.
Як можна жыць з п'яніцай?
Бяда з вечара да раніцы.

Лепш жыць з калекай,
Чым з п'яніцай ад веку.
Бо гэта бяда, гора,
А яму — гуляй, мора...

Мінайце п'яніцу здалёк.
Гэта дзяўчаты вам мой урок —
Выбірайце ціхага, спакойнага,
Не ілгуна, а слоўнага.

А галоўнае, каб водкі не піў,
Да Бога дарогу адкрыў.
І п'яніц Хрыстос можа паднесці
І ад прывычкі дрэннай адвесці.

Калі звярнецца да Яго,
Збаўцы свайго
І сэрца аддасць Яму на схаванне,
Тады будзе грахоў пахаванне.

**Мікалай Панфілюк**

## ДЭМАГРАФІЧНЫЯ ЦІКАВІНКІ

**Беласток**

Зараз Беласток налічвае каля 280 тысяч жыхароў і з'яўляецца 11-ым па колькасці жыхароў горадам у нашай краіне. Адносіцца ён і да найбольш шчыльна населеных гарадоў у Польшчы. З лікам 3046 чалавек на квадратны кіламетр ён на другім месцы ў краіне — апярэджвае нас толькі Варшава, дзе на кожным квадратным кіламетры пражываюць 3322 асобы.

Беласток — горад адносна малады. Тут пражывае 79 тысяч асоб ва ўзросце да 17 гадоў, а гэта амаль 30% гарадской папуляцыі. 167 тысяч асоб гэта працаздольныя людзі. Пенсіянераў і рэнтыстаў крыху больш за 31 тысячу.

У Беластоку пражывае 146 тысяч жанчын. Зараз на 100 мужчын прыпадае 110 жанчын. У 1994 годзе пажаніліся 1708 пар і было гэта на 73 больш чымсьці ў 1993 годзе. Жыхаркі горада выходзілі замуж і за чужаземцаў, між іншым за грамадзян Сірыі, Йемена, Вялікабрытаніі, Злучаных Штатаў Амерыкі, Канады, Індыі, Турцыі і Рэспублікі Беларусь.

Жэняцца не толькі маладыя. Найстарэйшы, 85-гадовы мужчына ажаніўся з жанчынай малодшай ад сябе на трыццаць гадоў. Восем маладажонаў мелі па звыш 70 гадоў, а найстарэйшай „маладусе" было 78 летаў.

У 1993 годзе ў Беластоку нарадзілася 5377 дзяцей і ў 1994 — 4300, з перавагай дзяўчынак.

**Янка Целушэцкі**

# ПАРАДЫ ГАСПАДАРАМ

**Як клінаваць сякеру**

Дрэнна заклінаваная сякера спадае часта з тапарышча, пры гэтым ускладняе працу і можа быць прычынай няшчаснага выпадку.

Добрае заклінаванне не можа быць зроблена не паралельна да вастрыя, але скоса. Так убіты клін не выпадае пры рубцы і сякера не спадае.

**Мяшкі**

Мяшкі да збожжа будуць больш трывалыя, калі намочым іх у спецыяльнай запраўе, якая робіца так: 1 кілаграм дубовай кары запарваем у 14 літрах кіпятку. Калі вада зафарбуецца, кладзем у яе мяшкі або палатно, якое хочам узмоцніць і мочым 24 гадзіны. Потым вымаем, палошчам у чыстай вадзе і сушым. Аднаго кілаграма кары хапае на ўзмацненне 8 метраў палатна.

**Перавозка бульбы зімой**

Калі зімой перавозім бульбу, забяспечваем яе, каб не памарозіць. Як найлепш гэта зрабіць? Калі насыплем бульбы на воз, накрываем яе пластом саломы, а на яе кладзем лёгка намочаныя мяшкі. Вільготныя мяшкі замярзаюць і лёд забяспечвае бульбу ад марозу.

**Забяспечванне драўляных слупоў**

Каб прадоўжыць трываласць драўляных слупоў, пракручваем ля самай паверхні касыя глыбокія дзіркі. Заліваем туды карболку і затыкаем дзірку шчыльным коркам. Такім чынам трываласць слупоў значна павялічваецца.

**Як пазбыцца мышэй у гумне**

Мышы не пераносяць запаху дзіванны. Расце яна на бедных сухіх пясчаных землях — кветкі жоўтыя. Паспрабуйце нарваць іх і ўлажыць паміж снапамі, а мышы не будуць знішчаць у гумне ўраджай.

**Чыстыя шыбы ў вокнах**

Нават старанна вымытыя і выцертыя шыбы не хочуць блішчэць. Аднак, калі пасля мыцця выцерці іх насуха чыстай сціркай, а потым газетамі, будуць яны блішчэць і поўнасцю прапускаць святло ў хату.

**(яц)**

# Калючы сусед

Вожыка ведаюць амаль усе. Ён у нас — найбольшы насякомаедны млекакормячы. Тым, што адрознівае вожыка ад іншых звяроў, з'яўляюцца іголкі, якія замест валасоў пакрываюць яго спіну і бокі. На целе вожыка бывае 6—8 тысяч іголак даўжынёй да 2 см. Ніз бакоў і жывот пакрыты ворсай. Дзякуючы спецыяльным мышцам вожык можа скрунуцца ў калючы клубок, што ахоўвае яго перад ворагамі. У нас вожыкі жывуць у парках, мешаных лясах, садах і агародах. Хаця жывуць побач нас, цяжка аднак іх спаткаць. У мяне ў агародзе жыў вожык, пра якога я доўга не ведаў: убачыў яго выпадкова ноччу, як паляваў на малыя жабкі. Вожык корміцца яшчэ смаўжамі, насякомымі, чарвякамі а нават ядавітымі гадзюкамі. З зімовага сну вожыкі будзяцца на зломе сакавіка і красавіка. Самкі, пасля 5—6 тыдняў цяжарнасці, прыводзяць 3—8 сляпых і няздольных да самастойнага жыцця малых. Тры тыдні кормяцца малаком маці, пасля 45 дзён жыцця робяцца самастойнымі. У канцы лета вожыкі інтэнсіўна жыруюцца, збіраючы рэзервы тлушчу на зімаванне. Каб шчасліва перазімаваць, вожык мусіць важыць не менш 300 грамаў. Калі робіцца холадна, вожыкаў ахоплівае зімовы сон. Тэмпература ападае ў іх з 34°C да 6—4°C, дыханне звальняецца да 7 разоў у мінуту, падае таксама пульс з 300 да 5—6 у мінуту. Натуральнымі ворагамі вожыка з'яўляюцца лісы, барсукі і совы з доўгімі кіпцюрамі. Найбольшым аднак яго ворагам з'яўляецца чалавек: вожыкі гінуць пад калёсамі машын і ў агні падчас выпальвання пожняў і сенажацяў землярobamі.

**Андрэй Гаўрылюк**

# ВІРАВАНКА

1. грашовая адзінка ў Расеі, 2. расейскі прэзідэнт, 3. рух атмасферы з паніжэннем атмасфернага ціску, 4. сталіца Вялікабрытаніі, 5. дагаворны саюз, 6. бессаромнасць, нахабства, 7. прылягае да шыі, 8. з 4, 9. французскі прыродазнавец (1744—1829), 10. вогнетрывалы матэрыял, 11. кантынент.

**(Ш)**

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца прышлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку з 51 н-ра:**

**Гарызантальна:** БССР, вахта, Астрон, бард, замак, нікель, фанэтыка, палац, авангард, Панароўе, пляга, інтарсія, карсар, спёка, Орля, вятрак, Сураж, Ірма.

**Вертыкальна:** Тамара, страфа, Сталетаў, радны, этыка, горла, Кацярына, іканапіс, папа, Лена, Ваня, Одра, ветралом, ляпсус, гектар, касяк, іскра, Трокі.

Кніжныя ўзнагароды атрымоўваюць: **Мікалай Красоўскі** з Бельска-Падляшскага і **Аляксандр Дабчынскі** з Беластока.

# ЛІЛЯ

Сядае ўвечары Ліля на лавачцы ля вуліцы і ўздыхае над сваім лёсам.

— Ай, нашто мне было выходзіць замуж! Ці ж іншых не было?

Пазнаёміліся яшчэ ў маленстве. Ліля паслала свой адрас у дзіцячы журнал „Пломычэк", напісала чым цікавіцца. Адрас надрукавалі. Праз тры тыдні лістаноша прынёс вестку ад Эміля. Нават фотакартачка была ў лісце. Ліля адпісала. Закончылі пачатковую школу. Хлопец прызнаўся ў каханні. Пасля першага года ў прафесіянальнай школе Ліля, пасля ліста свайго кавалера, паразмаўляла з бацькамі, ці можна запрасіць яго на дзень-два. Прыехаў.

Не ўмеў размаўляць па-нашаму і нават не разумеў нашай гаворкі, але, вядома, усе дамовіцца ўмелі выдатна па-польску. Лілiным бацькам і сябрам спадабаўся чарнявы Эміль. Калі ад'язджаў, бацькі развіталіся з ім з чуласцю, маці дала добра паесці на дарогу (хапіла б на траіх!).

Эміль таксама вучыўся ў прафесіянальнай, на столяра (Ліля марыла стаць краўчыхай). Калі абое завяршылі адукацыю, Эміль рашыў пабрацца са сваёй сяброўкай шлюбам.

— Але як будзе ў вас з веравызнаннем? — дапытваліся ў Лілі бацькі. — Калі хоча пайсці ён у царкву, то нядрэнна, але і так няраз абазве цябе кацапкай.

Эміль быў не супраць браць шлюб у царкве. Ягоныя бацькі сказалі: „Мы нічога не скажам, што сын ломіць веру, калі ідзе за голасам сэрца".

Пад вянец ішлі летам, у спёку. Кажуць, калі шлюб браць у такое надвор'е, маладыя будуць добра жыць.

Пасля вяселля паехалі ў Б. Эміль навучыўся нашай гаворкі, каб не па-польску са свекрамі размаўляць. Нанялі кватэру, працавалі кожнае па сваёй прафесіі. Частку заробленых грошай адкладвалі на ашчадную кніжку — марылі атрымаць кватэру ў жыллёвым блоку.

Праз год Эміля ўзялі ў армію. Амаль штодзень пісаў дадому, часта прыязджаў у водпуск. Пасля войска зноў пайшоў у сталярню. Калі прыйшло „новае", працу першая страціла Ліля, праз год звольнілі мужа. Вярнуліся ў вёску, дапамагаць у гаспадарцы бацькам. Так прайшоў яшчэ год. Дзяцей яны не дачакаліся.

Эмілеў брат запрапанаваў яму паехаць з ім за мяжу: або зарабіць крыху і вярнуцца на радзіму, або потым забраць на захад жонку. Паехалі ў Францыю.

Лісты прыходзілі зрэдчас, грошай і падарункаў не было ніколі. Толькі ў кожным пісьме здымак з надпісам „На вечную памятку".

Праз паўтара года прыйшло паведамленне, што дамоў Эміль не вернецца і жыць з Ліляй не будзе. Трапілася яму багатая ўдава, праўда, з сынам-падлеткам, то бярэ яе за жонку, і сына мець будзе. З Ліляй трэба яму развод. Сумаваць не павінна — з яе прагажосцю можна стаць хоць бы і прастытуткай і зарабіць на жыццё такім чынам зусім някепска, а нават „злапаць" сабе багатага мужа, не такога неўдалоту, як Эміль.

Пасля разводу Лілю змагла хвароба. Ледзь прыйшла ў сябе. Далей сядзіць у бацькоў на гаспадарцы, працуе ад раня да змроку. Увечары сядае на лавачцы пад хатай і наракае на свой лёс. Замуж не збіраецца, бо, як кажуць, калі не было дабра за першым — не будзе і за дзесятым.

**Аўрора**

Ніва

**"Niwa"**
ul. Suraska 1, 15-950 Białystok,
skr. poczt. 149, tel. 210-33.

Druk: "ORTHDRUK", Białystok,
ul. Składowa 9.

**Tygodnik białoruski sponsorowany przez Ministerstwo Kultury i Sztuki.**

**Рэдагуе калектыў:**

Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Алег Латышонак, Віталь Луба (сакратар рэдакцыі), Міраслава Лукша, Аляксандр Максімюк, Яўген Мірановіч (галоўны рэдактар), Яўгенія Палоцкая (машыністка), Галіна Рамашка (кіраўнік канцылярыі), Марыя Федарук (машыністка), Ада Чачуга.

**Выдае:**

**Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".**

Prenumerata.

1. Termin wpłat na prenumeratę na II kwartał 1995 r. upływa 20 lutego 1995 r. Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie woj. białostockiego i oddziały "Ruch" na terenie całego kraju.

2. Cena prenumeraty na II kwartał wynosi 6,50 zł (65 000 starych zł).

3. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje RUCH S.A. Oddział Warszawa, ul. Towarowa 28, 00-958 Warszawa.

Nr konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-1195-139-11.

4. Prenumeratę można zamówić w redakcji. Cena 1 egz. wraz z wysyłką wynosi 1 zł (10 000 st. zł), a kwartalnie — 13 złotych (130 000 st. zł). Wpłaty przyjmuje Rada Programowa Tygodnika "Niwa", Białystok, ul. Suraska 1, nr konta PBK S.A., I Oddział Białystok, 370406-207917-132.

Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.

## Пародыі

*Што мне Ньютоны, што Галілеі*
*Ці пустата Тарычэлі...*
*Адзін я выходжу на арбіту алеі*
*У камбінезоне вячэрнім.*

**(Ян Чыквін, „Што мне Ньютоны, што Галілеі")**

Што мне Ньютоны, што Галілеі,
Ніл Армстранг ці Тарычэлі...
Адзін я выходжу на арбіты алею
У новым касцюме вячэрнім.

Быццам ракеты, чарка за чаркай
Мяне ўсё вышэй падымаюць...
Пасля паўлітра, быццам Ніл Армстранг,
З высотаў зямлю успрымаю.

Яна круціцца ўпарта, то ўправа,
то ўлева,
Нагам маім непакорная...
І мне цяпер ясная, як калісь Галілею,
Простая праўда: eppur si muove*).

Я ўжо, як Ньютан, з настоем шукаю
Апоры — планету стрымаць...
Зямлю ўзяў на плечы і нагамі махаю...
А яна віруе няспынна.

Рана ў мазгах гравітацыя
І пустата Тарычэлі...
Як камбінезон пасля працы
Касцюм мой новы вячэрні.

**Адам Маньяк**

*) eppur si muove (іт.) — аднак круціцца (Галілей).

### ДАЛАСЯ Ў ЗНАКІ

Усё жыццё „пііліла" жонка мужа...
А як стары зусім ўжо занядужаў,
Залямантавала ля яго старая:
— А на каго ж мяне ты пакідаеш?
Пайду я за табою хутка, Вася!
— Прашу цябе: ты надта не спяшайся!

### КАБ НЕ БЫЛО ШКАДА

— Навошта выбраў ты такую:
Кульгавую й глухую?
— Ат, Гаўрыла, не бяда:
Як памрэ, дык не шкада.

**Васіль Лук'янчык**

## Думкі ўслых

Пачатковец намагаўся пераліць свае думкі на паперу. Раніца асляпіла яго белізной карткі.

* * *

Вераб'і, відаць, надта нервовыя істоты. Часта бачу, як лузаюць семачкі.

* * *

Цеста, якое не вырасла ў пякарні, вырасце ў роце.

* * *

Гарачы прыхільнік студжанай гарбаты холадна ставіцца да цёплай заваркі.

* * *

Калі ты надзеў учарашнія шкарпэткі — гэта нічога. Горай, калі ты ўчора зрабіў тое самае.

**Адам Сяменчык**

Малюнак Міколы Гіргеля ("Рэспубліка")

*АЛЯКСАНДР ПЯРЛЮК*

## Грабежнік

— Дзядуля, вам чаго?
— Рукі... кха-кха... Рукі, кха-кха... прабачце, чортаў кашаль... кха-кха-кха...
— Вы, напэўна, прыйшлі сюды, каб пакласці грошы на ашчадную кніжку?
— Куды ўжо там! Кха-кха... рукі... кха-кха... рукі... кха-кха...
— Значыць, хочаце закрыць уклад?
— Не... кха-кха-кха... рукі... кха-кха...
— Якія рукі? А, зразумела, у вас баляць рукі? Тады вы звярнуліся не па адрасу, вам патрэбна звярнуцца ў паліклініку, а гэта ашчадны банк!
— Не! Кха-кха...
— Рукі не баляць, а што ж? А, бачу-бачу, у вас радыкуліт і бранхіт, напэўна, запаленне лёгкіх, калі так кашляеце.
— Ой, дачушка, і не кажы... рукі... кха-кха-кха...
— Нічога не разумею! Каця, ты не ведаеш — што ён хоча? Дзядуля, а вы напішыце, што вам трэба. Вось вам папера, вось ручка!
— Дзякуй, дачушка, кха-кха...
— Так, што вы тут напісалі? „Рукі ўверх! Грошы на бочку!"
— Божа мой! Аказваецца, вы прыйшлі нас грабіць?
— Правільна, дачушка, кха-кха-кха.
— Ой, грабеж сярод белага дня! Мы вымушаны выклікаць міліцыю.
— Грошы на бочку! Кха-кха... калі ласка!
— Не маю права, да таго ж я такіх пытанняў сама не вырашаю. А што, Каця, можа дадзім дзядулю адзін мяшочак „зайчыкаў"? Шкада яго, як-ніяк хворы, з палачкай ходзіць ветэран, пенсія ў яго з вераб'іны нос. Ну што, уважым гэтага дзядка?!

**Пераклаў з рускай мовы Валерый Бабей**

## АД ГАРЭЛКІ РОЗУМ МЕЛКІ*)

Адзін чалавек напаткаў свайго знаёмага і запытаўся:
— Дзе ты цяпер працуеш?
— Працую пакуль што ў міліцыі. Пяць сутак адпрацаваў, засталося яшчэ дзесяць.

* * *

— Калі вам так цяжка піць горкія лекі, думайце, што гэта піва, — гаворыць хвораму ўрач.
— А ці не лепей, паважаны доктар, зрабіць наадварот: піць піва і думаць, што гэта лекі? — запытаў хворы.

* * *

Сустрэўшы аднойчы свайго знаёмага, лазеншчык пытаецца:
— Ты чаму перастаў у лазню хадзіць?
— А навошта? — адказвае той. — Мяне зараз два разы на месяц у выцвярэзніку мыюць...

* * *

Знайшоў міліцыянер у самагоншчыцы змеявік:
— Што ж, грамадзянка, акт складаць будзем!
— Які акт, грамадзянін міліцыянер? Гэта ж наш Вася на гэтай машыне доследы па хіміі робіць!..

* * *

Добра падпіўшы, грамадзянін чакае трамвай у дзве гадзіны ночы. Да яго падыходзіць міліцыянер:
— Грамадзянін!.. Трамваі ўжо не ходзяць.
— А ч-чаму тады р-рэйкі ляжаць?..

* * *

— Скажы, што цяпер — ноч або дзень? — запыталі два п'яніцы ў прахожага чалавека.
— Не ведаю, браткі, я нетутэйшы, — адказаў той.

* * *

— Я не паеду цераз гэты мост, — заявіў шафёр свайму начальніку.
— А што, няспраўны мост?
— Не, у мяне ў вачах дваіцца, — адказаў той, — дык не ведаю, па якім ехаць.

* * *

— Ільін пасля свята прыйшоў на працу выпіўшы.
— А ты адкуль ведаеш?
— Ды ён сам прызнаўся.
— Ну, мала што можа нагаварыць нецвярозы чалавек.

* * *

Аднойчы, калі муж з'явіўся дадому п'яны, жонка сказала з дакорам:
— Зноў на корак наступіў?
Праз некаторы час, з выпадку дня нараджэння жонкі, муж адкаркаваў бутэльку шампанскага. Корак паляцеў на падлогу. Маленькі сын сказаў маці:
— Мамка, падымі корак, бо тата зноў на яго наступіць...

**) З аднайменнага зборніка, які выйшаў у Менску ў 1988 г. у выдавецтве „Мастацкая літаратура".*

## САРДЭЧНЫЯ ТАЙНЫ

Дарагое Сэрцайка! Не ведаю, за што мяне спаткала такая кара — нічым, здаецца, у сваім жыцці на гэта не заслужыла. Выйшла я замуж вельмі маладая і поўная веры ў будучыню. Муж мой быў прыгожы і добры, вельмі любіў сям'ю. Нарадзілася ў нас двое дзетак, якія ўнеслі ў наша жыццё шмат радасці. Добра раслі, добра вучыліся ў школе. Нішто не прадвяшчала няшчасця, якое нахлынула на нас неспадзявана. Калі дачушка была ў чацвёртым класе, а сын — у другім, іх бацька неспадзявана загінуў у аўтамабільнай катастрофе — быў шафёрам.

Я думала, што ўсяю гэтага не перажыву. Нават давялося ісці да лекара-псіхіятра. Прыпісаў мне нейкія таблеткі на супакаенне. Дзеці неяк паніклі, не мелі апетыту, пахудзелі. Кепска стала нам без мужа і бацькі.

Неўзабаве аднак я знайшла сабе добра платную працу, стала нам лягчэй матэрыяльна, а паколькі працавала я сярод людзей (у рэстаране), дык і не адчувала я сябе такой адзінокай.

Ну, і неўзабаве паявіўся каля мяне мужчына. Не адыходзіў даслоўна. Быў у мяне на працы штодзень, а пасля пачаў прыходзіць дахаты. Дзеці палюбілі яго, і я зарызыкавала выйсці замуж, мяркуючы, што будзе ён ім добрым бацькам. А, зрэшты, што тут многа гаварыць! Быў гэта малады чалавек, а такі прыгожы, што ўсе дзяўчаты навокал аж пішчэлі за ім. Закахалася я без памяці, можа, даруй мне Божа, мацней, чым першы раз.

Мы пажаніліся. Ізноў нарадзілася дачушка, а праз два гады сынок. Гісторыя паўтарылася. Думала я, што на гэты раз лёс мяне ашчадзіць, што ўжо гэтыя дзеткі будуць шчаслівейшыя, бо будзе з імі бацька. Але ж дзе там!

Неўзабаве ён пачаў піць, увесь час недзе прападаў, даваў усё менш грошай, хаця зарабляў нямала. Я пачала шукаць прычыну яго паводзін і неўзабаве даведалася, што ён звязаўся з іншай жанчынай. Спачатку я хацела выкінуць яго з хаты, але пасля падумала, што жанчына тая чыстая, ёсць у яе муж і дзеці, вельмі дагледжаныя, дык мо не варта рабіць скандал, а лепш перацярпець паціху, дык сям'я застанецца цэлая.

І думала я, што маё рашэнне слушнае. Але высветлілася, што можа быць яшчэ горш. Калісь я выехала з малодшымі дзецьмі да маці на вёску. Вярнулася неспадзявана раней, чым планавалі. У хаце мы засталі страшэнны балаган, а ў спальні — майго мужа... з нейкім маладым чалавекам у ложку! Божа, дык ён ужо дайшоў і да гэтага!

Дарагое Сэрцайка! Што ж мне было рабіць?! Цяпер ужо не заставалася ніякіх сумненняў, што ён — падлюга. Я сабрала ўсё найбольш патрэбнае, замкнула хату, ды выехала з гэтага праклятага мястэчка ў Беласток. Тут вучыліся мае старэйшыя дзеці. Яны дапамаглі і мне знайсці кватэру.

І так жыву цяпер з маімі маленькімі. Развялася, але муж аліментаў не плаціць, плаціць дзяржава. Дараблю як магу і дзе магу. Цяжка, але спакойна.

Сэрцайка! Не веру ўжо мужчынам. А як ты думаеш, ці варта яшчэ прыдбаць нейкага?.. Часамі сумую па чалавеку, да якога магла б прытуліцца...

**Анна**

Даражэнькая Анна! Сапраўды, жыццё дало табе цвёрдую школу. Відаць, занадта добра было твайму маладзенькаму прыгажуну пры табе, калі так разбэсціўся... Прызнайся: усе абавязкі па хаце ты ўзяла на сябе, праўда?! А ён меў шмат часу і дзяўчат, ды пасля перакінуўся і на хлапцоў. Вось і вынік. Калі ўжо хочаш звянчацца з іншым мужчынам, пастарайся змяніцца сама. Не час абагатвараць яго, калі плачуць галодныя дзеці. Падыдзі да справы больш цвяроза. А, зрэшты, не ўсе ж мужчыны — сволачы...

**Сэрцайка**